


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

З НОВЫМ ГОДАМ 2013!

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 53 (2955) Год LVII | Беласток, 30 снежня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Беларуская літаратура сталее і маладзее

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Пятнаццаты міжнародны літаратурны семінар „Бязмежжа” завяршыўся літаратурным конкурсам „Дэбют”. Спалучэнне спрацавала як творчая паслядоўнасць. Гэтыя два мерапрыемствы, арганізаваныя „Нівай” і Беларускім саюзам у РП, рэальна ахоўваюць жывы літаратурны працэс беларусаў Польшчы. Многія беластоцкія аўтары былі надрукаваны ў менскіх часопісах і альманахах. Узніклі кнігі, пераклады, амаль паўтысячы людзей спрабавала сваіх шанцаў у конкурсе „Дэбют”. Таму праграма сёлетняга „Бязмежжа” была насычана рэфлексіямі, юбілейнымі падсумаваннямі, успамінамі.**

— Ідэя „Бязмежжа” нарадзілася напрыканцы 1980-х гадоў на дачы Латышонкаў у Супраслі, — пачаў Яўген Вапа. — Нам хацелася, каб сустракаліся людзі літаратуры, якія жывуць па абодвух баках мяжы. Нашым інструментам была бязмежная думка, якая, як вядома, перасякае ўсе муры і жалезныя заслоны.

Яўген Вапа прыгадаў асобу Дзімы Кісяля, гродзенскага журналіста і чалавека ідэі, які першым узяўся разбіваць жалезныя заслоны паміж Беласточчынай і Гродзеншчынай. Яму, заўчасна адышоўнаму ў лепшы свет, прысвяціў апавяданне „У родным горадзе чужынцам”.

Ідэя, запачаткаваная Дзімам Кісялём, выдатна спрацавала ў літаратурным працэсе. Гарадзенскія аўтары, напрыклад Віктар Сазонаў, дзякуючы перакладам, вядомыя ўжо не толькі беларускамоўнаму чытачу ў Польшчы. Свайго адкрыцця чакае Валодзя Хільмановіч, які сваімі трыялетамі проста *ўціснуў у крэсла* ўдзельнікаў семінара. Гарадзенцы праявілі сябе яшчэ як ненайгоршыя барды.

* * *

Як вядома, ніштo не нараджаецца на голым камені, асабліва калі ідзе пра літаратуру. Цягам 2013 года сваё 55-годдзе будзе адзначаць „Белавежа”, роля і значэнне якой у ахове літаратурнага працэсу, асабліва ў мінулым, бясспрэчныя.

— Усе белавежскія паэткі гэта праслескі, — пачала свой прыгожы даклад Ала Петрушкевіч. Увага дакладчыцы засяродзілася менавіта на жаночай творчасці аб’яднання, дзе кожная аўтарка атрымала належную ёй кветку. Літаразнавец звярнула ўвагу на знікаючы беларускі арэал, які падтапляе мора асіміляцыі, у памяць якога астаюцца адно астраўкі і архіпелагі памяці. Жанчыны тут прамаўляюць як сімвал несмяротнасці, надзеі...



Алесь Плотка і Уля Шубзда



Барыс Пятровіч Сачанка і Лена Глагоўская

Пра свае архіпелагі памяці, месцы зафіксаваныя ў творах распавяла Міра Лукша. Яна прадставіла свой новы зборнік „Biały Stok”, дзе зафіксаваныя сцежкі-дарожкі жывога натхнення. Паэтэса перапляла іх з творамі са зборніка „Пад знакам Скарпіёна”, намякаючы на магічны характар герояў і здарэнняў. Многа смаку і спадзяванняў нарабіў Міхась Андрасюк, які прачытаў фрагмент новага твора пад загалоўкам „Рускі трыпціх” — магчыма, першы раз у літаратуры будзе разблытана загадка „рускага” квадрата, у якога параметры 60 х 80...

З прапанован новага твора пра Меркурыя Смаленскага і містычныя падарожжы ў часе і прасторы выступіла вышэйпадпісаная.

На „Бязмежжы” прагучалі чатыры беластоцкія „дэбюты”. На першы агонь пайшоў Андрэй Сцепанюк, аўтар культавага верша-песні „Не плач айчына”, напісанага яшчэ ў мінулым стагоддзі. Новыя вершы Андрэя Сцепанюка выраслі з сучаснасці, а таксама са спелай рэфлексіі. Гэты літаратурны паварот многія сябры адчулі як цуд.

З увагай і цеплынёй публіка ўспрыняла паэтычныя чытанні Касі Сянкевіч, студэнткі мастацтва ў Любліне. Падобныя ўражанні выклікала прэзентацыя прозы Уршулі Шубзды, сёлетняй лаўрэаткі „Дэбюту”. Несумненнай зоркай „Бязмежжа” стаў Тадэвуш Кунцэвіч, прыродны паэт з Лешукоў. Ён прыехаў са сваім новым зборнікам „Маё Падляшша”. І заззяў як выканаўца твораў „Бітлз”. Песні гурту сваёй маладосці ён сам пераклаў на ляшуцкую мову: *каб людзі ведалі, пра што спяваю.* А спявае ён і грае на гітары і вусным гармоніку, так што маглі б яму пазайздросціць нават прафесійныя барды.

* * *

Ад пачатку „Бязмежжа” ставіла сабе адну мэту: прыблізіць аўтараў і літаратурныя трэнды, якія адбываюцца ў Рэспубліцы Беларусь. Барыс Пятровіч, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў распавёў найперш пра складанасці, якія на кожным кроку сустракаюць творцаў нацыянальнай культуры. Нягледзячы на ўсё, у іх саюзе 420 членаў, узнікла школа маладога пісьменніка — курсы для літаратараў-пачаткоўцаў, на Магілёўшчыне працуе аддзел СБП. Выйшла шмат кніжак і перакладаў. Доказам жывога літаратурнага працэсу сталі літаратурныя чытанні Алеся Плоткі, Тацяны Беланогай, Алеся Камоцкага і Эдуарда Акуліна. Апошні паэт і бард рыхтуецца да залатога юбілею, які выпадае 7 студзеня. Святкаванні па сённяшні дзень не маюць свайго адрасу, паколькі ўзніклі надуманыя праблемы з памяшканнем. Эдуард Акулін прачытаў нізку вершаў са свежага, выдадзенага да юбілею зборніка „Малітва воч”. Ідэалізацыя беларускага свету дапамагае ў змаганні з беларускімі супярэчнасцямі.

У час „Бязмежжа” прэзентавалася польскае выданне дзённікаў Ларысы Генію́ш „Ptaki bez gniazd” — у перакладзе Чэслава Сэнюха (прэзентацыю вялі Яраслаў Іванюк і Наталля Герасімюк). З цікавасцю і прызнаннем сабраныя прывіталі новую кніжку доктар Лены Глагоўскай „Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku”, якая на Агульнапольскім кніжным кірмашы атрымала ўзнагароду за навуковы змест і афармленне. Сэнсоўным дапаўненнем праграмы сталі фільмы Міколы Ваўранюка. Асабліва запіс „Падляшскіх хронік” выклікаў шмат рэфлексій і шчырае захапленне. Госці з Беларусі былі згодны, што спектакль беластоцкай моладзі трэба паказаць у духовай бацькаўшчыне, адразу аднак з’явіліся сумненні наконт бюракратычных перашкод, звязаных з атрыманнем віз і арганізацыяй турнэ.

Навуковыя, перакладчыцкія і фільмавыя прапановы выдатна сыграліся з жывым літаратурным словам, якое — як аказалася — цягам трох дзён (14-16 снежня 2012 года) жыве ў беларускай бязмежнай прасторы. Мяне найбольш уразілі бескампрамісныя вершы маладога паэта Алеся Плоткі. Але ў агульным станоўча здзівіла Падляшша, якое ў гэты раз паказала сваю сілу і характар. Асаблівасць пятнаццатага юбілейнага семінара, які традыцыйна ўжо адбыўся ў гасцінным пансіянаце Бора-Здруй, што ў Новым Ляўкове, падвёў галоўны арганізатар і душа мерапрыемства. Менавіта Яўген Вапа, стомлены, але і шчаслівы, сказаў у адным сказе пра ўсё, што ёсць і адбылося за 15 гадоў існавання „Бязмежжа”:

— Наша літаратура сталее і маладзее!





# Welcome to Belarus

Як айчынная эканоміка не стараецца выцягнуць грошы з замежніка, турысты ў Беларусь ехаць не спяшаюцца. Не валакуць сюды яны сваю валюту. І не едуць не толькі на калядныя святы. „Што тут можа быць цікавага на Каляды", — думаюць яны. Але і ў іншыя перыяды года турыстаў тут таксама не багата. Прычыны розныя. Калі заходні чалавек вырашыў адпачыць, то ён не пачынае адпачынку з праблемаў. А тут праблемы пачынаюцца яшчэ са спробы атрымаць візу. Многія, хто найбольш хоча наведаць Беларусь, візы ўвогуле атрымаць не могуць па палітычных меркаваннях. Палітыка ў нас такая.

Для іншых жа турыстаў выбраць для адпачынку беларускі кірунак клопатна і дорага. У напрамку Беларусі і нязручны транспарт, каб даехаць, і не самая вясёлая кампанія ў паламаным кантрабандыстамі цягніку. А таварам, які валакуць з Захаду з іхнага каляднага распродажу, могуць заваліць не толькі не маючага навыкаў выжывання ў нашых экстрэмальных умовах заходняга турыста, але нават і марскога пехацінца войскаў НАТА.

А затым мяжа і адчуванне, што трапляеш зусім не туды, куды марыў. Ды галоўныя праблемы наперадзе. Найперш трэба зарэгістравацца. Нібыта нічога складанага, падыходзіць нават гатэльны квіток. Але паспрабуйце, прыкладам у Гародні, прыехаўшы знянацку, засяліцца ў гатэль. Думаю, рамантыка сустрэчы Новага года на адкрытым паветры вам забяспечаная. А пра дарагавізну прадуктаў харчавання і іншых тавараў гаварыць не прыходзіцца. Ды і не трэба, бо наўрад ці замежны турыст зможа патраціць у святочныя дні хоць у адну кнайпу. Так, небарака, і застанецца галодным.

Выпіць, праўда, яму нальюць. Людзі ў нас вельмі добрыя, душэўныя такія. І, праходзячы ў святочныя дні з бутэлькай ля замярзаючага замежніка, абавязкова прапануюць таму перакуліць кілішак-другі. Не дадуць замерзнуць. Пры гэтым, па прычыне сваёй інтэлігентнасці, не кожны беларус спытае ў няшчаснага замежніка: „А чаго ты, дурань, сюды прыпёрся?". Хоць падумае так кожны.

Але ў нас людзі ўжо навучыліся не гаварыць таго, што думаюць. Па сутнасці, гэта адзіная агульнанародная рыса, якая робіць уражанне масавай інтэлігентнасці насельніцтва. Самацэнзура! Вось што вызначае зараз кожнага беларуса. Самацэнзура стала галоўнай якасцю не толькі выдаўцоў сродкаў масавай інфармацыі, ці прадстаўнікоў улады, або ідэалагічных работнікаў і іхных падпявал. Самацэнзура стала галоўнай якасцю кожнага індывіда, калі можна назваць індывідам чалавека з такой якасцю.

— Ці чыталі вы ў інтэрнэце матэрыял пра палітвязняў? — пытаецца пры кілішку адзін вясёлы дзядзька сталага веку, крыху асмялеўшы ад колькасці выпітага.

— Ты што, здурнеў!? — адказваюць яму іншыя, вылупіўшы на таго вочы, як на нечакана зышоўшага з неба марсіяніна. — Не лазь па такіх сайтах, бо праблемы нажывеш.

Кажуць так, хоць кожны з іх лазіць па гэтых сайтах.

— Ды я не лажу. Расказвалі мне, — пачынае апраўдвацца дзядзька, імгненна працвераезеўшы. І абавязкова дадае, хоць яго пра тое ніхто не пытаецца: — А вось хто расказваў, хоць забі не ўспомню.

Але нават самы разумны і спрактыкаваны замежны турыст, які цікавіцца менавіта нацыянальным менталітэтам, ніколі не даведаецца пра такую якасць сённяшніх беларусаў як самацэнзура. Не даведаецца па прычыне ўсё той жа самацэнзуры.

Дык які ж дурань сюды папрэцца? Прапанаваць то замежным турыстам шмат чаго ёсць. І не толькі кілішак гарэлкі на марозе ад вельмі добрага па натуры, і вельмі добра падпітага па факце выпадковага беларуса. Прыкладам, на адзначэнне Новага года па старым стылі сюды палова Еўропы з'ехалася б. Але...

Але каб запрашаць, трэба гасцей любіць. Каб госці прыехалі, трэба каб яны ведалі, што іх шчыра чакаюць. Трэба любіць людзей увогуле, і сваіх таксама. Трэба клапаціцца пра іх, дбаць пра іх начлег, пра іх харчаванне, а не толькі думаць як з іх грошы выцягнуць. А галоўнае, сачыць, каб яны не набраліся адсюль той страшнай заразнай хваробы, якая нішчыць чалавека як асобу і называецца самацэнзурай.

**Віктар САЗОНАЎ**



# І там, і сям

Іншая справа, што ўвесь запал беларусаў да працы пайшоў у корань, развіваючыся ў падзямеллі дзяржавы густой сеткай індывідуальнай прадпрымальнасці. Падземныя парасткі індывідуальнай прадпрымальнасці, парасткі эканамічнага прагрэсу дзяржавы замест даць плён, ідуць у корань. У маленькай па ліку грамадзян Беларусі нулявы паказчык беспрацоўнасці ў матэрыялістычнай дыялектыцы зусім неапраўданы, калі прымяняць яго да рэальнага ліку беспрацоўных.

Іншая справа, што ў клопаце за прытармажэнне наступаючай беспрацоўнасці паліцыйныя штаты даручаюцца органам дзяржаўнай адміністрацыі. Статыстычна ўсё ў парадку. Папраўдзе меншае лік функцыянераў, ды затое павялічваецца лік чыноўнікаў. Лік беспрацоўных у Польшчы незалежна ад гэтага ўтрымліваецца на ўзроўні 13%. У Беларусі няма так. Папраўдзе за ўсю дзяржаўную адміністрацыю хопіць аднаго Лукашэнкі. І добра ёсць! Прынамсі бюракратыі няма. Толькі што дзяржава без бюракратыі — як конь без хваста. Без хваста, як вядома, конь наравісты. У Беларусі грамадзяне ведаюць дзе іх месца. Або на дэманстраванні падтрымкі Лукашэнку, або ў лагерах. А што маем у Польшчы? Безгалоўе!

У выпадку Польшчы гэта столькі што нічога. Сам я ўласнік аднаго гектара грунту і дасканала ведаю як цяжка ўпільнаваць такі кавалак зямлі, асабліва летам, калі ў ваколіцу маёй вёскі заязджаюць турысты, а буйныя сады і агароды спакушваюць гэтую згаладнелую чэрнь усялякім пладом. Што з таго, што тыя 0,0026 функцыянера ўпільнуе адну маю яблыньку, калі агародніння градкі застанецца без пільнавання?! Наколькі лягчэй па гэтай прыкмеце дачакацца ў Беларусі багатага плёну і чэрпаць з яго задавальняючую карысць?! Ужо толькі на маім прыкладзе відаць выразна, у якой краіне ўлада сапраўды клапоціцца за бяспеку і дабро сваіх грамадзян А каб толькі за бяспеку! Таксама ў пытанні беспрацоўя беларускія ўлады паказваюць адпаведную дбайнасць. Бачныя функцыянеры заўважныя. У шапках, прыгадваючых лётнішчы, прыгожа прэзентуюцца на вуліцах. Адразу відаць, што турбуюцца яны за бяспеку грамадзян. Калі трэба, або калі і не трэба, бачныя функцыянеры спыняць аўтамабільны рух, каб старэча бяспечна прайшла праз вуліцу, салютам прывітаюць гнаўшых у школу вучняў або ветліва правучаць раздурэлых юнакоў, што нельга шумець пасля 22-й гадзіны. Іншая гэта справа, што хаця нябачныя бачныя, дык зусім нябачна лупяць дубінкамі непакорлівых або займаюцца хабарніцтвам або іншымі махлярствамі. Можна таму сказаць, што большая частка бачных функцыянераў паздарабляе на другім штаце нябачных функцыянераў. У Польшчы, на жаль, бачныя функцыянеры не маюць такіх магчымасцей дадатковага заробку, таму становяцца штораз менш бачнымі. Тым больш, што ў рамках бюджэтных ашчаднасцей ліквідуюцца паліцыйныя пастарункі, а за імі — штаты. А тыя перакідваюцца ў распараджэнне адміністрацыйных і самаўрадавых органаў. Іх лік расце прапарцыйна да таго, як у Польшчы расце дзяржаўны доўг. Што горшае, пераймаючы штаты, а затым запланаваны ў дзяржаўным бюджэце кошт іх утрымання, праца функцыянераў публічнай адміністрацыі робіцца штораз менш бачнай.

Аднойчы адзін беларускі мешчанін паехаў у вёску да сваякоў па свежаніну. Нагрузіў мясам увесь багажнік і імчаў з жонкай па шашы на Мінск. А тут як тут — ахоўнікі парадку на дарозе. „Здаецца, мы не перакрочылі хуткасці?" — спалохаўся муж. „Вядома, чаго ім трэба! Хабару! Колькі там маеш у заначцы?" — прытомная жонка маланкава ацаніла сітуацыю. „Дзве пяцідзесяткі баксаў". Шафёр выйшаў да міліцыянераў, адкрыў багажнік. Справу афармілі без праблем. На другім пасце справа рашылася яшчэ хутчэй. Прыехаўшы дахаты шафёр адчыніў багажнік і сталі з жонкай, на зайздрасць суседзям, даставаць торбы і пакеты з мясам. З пакункаў выпала міліцыйная рукавіца, набітая доларамі.

З кожнай сіутацыі можна мець задавальняючую карысць.

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Страх перад культурай



Каля сарака працэнтаў жыхароў Падляшскага ваяводства не ўмее спантанна (самому па сабе) пералічыць нія-кай культурнай імпрэзы, якая адбываецца ў рэгіёне. Найбольш не хапае ім тэатральных фестываляў, выстаў ды народных фэстаў. Прытым культура гэта кампетэнтнасць, якой трэба навучыцца, а кожны другі падляшук сцвярджае, што тэлебачанне поўнасцю забяспечвае ягоныя культурныя патрэбы. Гэта толькі некаторыя высновы, выплываючыя з даследаванняў, якія ў апошні час прадставілі сацыёлагі з Фонду «Лабараторыя даследаванняў і сацыяльных дзеянняў „SocLab"» , якія разам з беластоцкім Драмтэатрам імя Аляксандра Вянгеркі ў рамках праграмы „Абсерваторыя культуры" Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны дыягнаставалі стан удзелу ў культуры грамадзян Падляшскага ваяводства. Даследаванне зрабілі яны на падставе апытання 550 рэспандэнтаў. Як сказаў дырэктар Інстытута сацыялогіі Універсітэта ў Беластоку праф. Ян Паляшук на прэс-канферэнцыі па выніках даследаванняў, іх мэтай было м.інш. даведацца чаму падляшукі не могуць ці не хочуць удзельнічаць у культурным жыцці.

Сацыёлаг Анджэй Клімчук адзначыў:

— У XXI стагоддзі культура становіцца не толькі забавай, хаця ўвесь час з'яўляецца ёю, але з'яўляецца часткай рухаючай сілы эканомікі.

У сваю чаргу сацыёлаг Катажына Вінецкая звярнула ўвагу:

— Часта творы высокай культуры мусяць быць камерцыялізаванымі, каб прадаваліся. Забяспечванне гульнявога пачуцця гумару дае пачуццё быцця ў культуры.

Аналізуючы вынікі даследаванняў даецца прыкмеціць, што ўдзельніцтва ў культуры характарызуецца вялікімі дыспрапорцыямі паміж рэгіёнам і Беластокам. Кожны трэці адказчык ацэньвае цяперашнюю культурную прапанову свайго месца пражывання як сярэднюю ці слабую. Беласток як сталіцу ваяводства характарызуе недахоп інвестыцый у культуру ды слабая вонкавая прапаганда. Аўтары даследаванняў заяўляюць: „Гарадская культурная палітыка — расцярушаная, стварaецца і рэалізуецца пры мінімальнай ангажаванасці грамадскіх ініцыятыў". Пры нагодзе варта тут дадаць, што ў апошні час беластоцкія радныя (галасамі дэпутатаў ад ГП) скарацілі бюджэт на культурныя мерапрыемствы напалову ў параўнанні да мінулага года, значыць, да мільёна злотых.

Найбольшым бар'ерам, які перашкаджае ўдзельніцтву ў культуры — як паказваюць падляшскія адказчыкі — з'яўляецца недахоп грошай, часу ды (у выпадку асоб з-па-за Беластока) адлегласць ад месца падзеі. Амаль палова жыхароў ваяводства не наведала за апошні год ні адной установы „высокай" культуры (оперы, філармоніі, тэатра, мастацкай галерэі, музея). Слабое таксама веданне рэспандэнтамі культурных устаноў. Адказчыкі асацыююць самі з сябе па чарзе Падляшскую оперу і філармонію (пэўна таму, што ў час правядзення апытанняў было аб ёй гучна ў СМІ), Драмтэатр, Беластоцкі лялечны тэатр. Ваяводства не мае вялікай і распазнавальнай культурнай падзеі, інтэгруючай жыхароў, прысутнай у паўсюднай свядомасці ды прапагандуючай яго навонкі. Такіх функцый не выконваюць высокабюджэтныя імпрэзы такія як „Пазітыўныя вібрацыі" ці „Падляшская актава культур". Гэтая апошняя змяшчаецца на канцы спіска імпрэз (3,8%), перад менш дарагімі, такімі як „Басовішча" (4,5%) і „Дні царкоўнай музыкі" (4,5%), а адкрывае спісак „Кірмаш на святога Яна" (15,6%).

На думку экспертаў, якіх таксама апыталі, надалей у Беластоку і рэгіёне царыць „комплекс Варшавы", значыць, мышленне, што тое, што вырабляецца ў сферы культуры на месцы — горшае чым у сталіцы.

— Шмат адказчыкаў прызналася, што высокай культуры трэба навучыцца, баяцца яе, — дайшла да вываду сацыёлаг Катажына Штоп-Руткоўская.

Цяпер прыйшоў час, каб з даследаванняў зрабілі высновы аніматары падляшскай культуры і самаўрадавыя ўлады, асабліва Беластока.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Гісторыя ВІТАВА на фатаграфіях



Аўтар фотаальбома Іаанна Сапяжынская цікава распавяла ў час спаткання пра гісторыю сваёй вёскі

**Вітава — прыгожая вёска, распаложаная ў Белавежскай пушчы, за якой доўгая і цікавая гісторыя. Іаанна Сапяжынская, настаўніца гісторыі ў Комплексе прафесійных школ у Гайнаўцы, ураджэнка Вітава, ужо здаўна стала збіраць архіўныя матэрыялы і здымкі пра сваю радзіму. Апошнім часам у рамках праекта «Вобраз жыхароў Гайнаўскага павета і вёскі Вітава ў старым дакуменце і фатаграфіі» стала яна з дапамогай вяскоўцаў і зычлівых справе людзей інтэнсіўна збіраць здымкі і дакументы датычныя роднага сяла. У гэтым годзе праходзілі сустрэчы з жыхарамі Вітава, у час якіх адбывалася апісванне здымкаў, адабраных для фотаальбома «Вітава — вобраз мінуўшчыны». Яго прамоцыя адбылася 15 снежня ў мясцовай святліцы, з удзелам вяскоўцаў, выхадцаў з сяла, жыхароў суседніх мясцовасцей і шматлікіх запрошаных гасцей. Гаспадары мерапрыемства — войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі, вяскоўцы і гмінныя чыноўнікі — апекаваліся сабранымі. Галоўная зала святліцы была настолькі запоўненая людзьмі, што толькі спераду быў вузкі праход, а сабраныя стаялі нават у калідоры і невялікім пакоі збоку. Асабліва мясцовым людзям важным было атрымаць шыкарны альбом з некалькімі сотнямі здымкаў і з гістарычным нарысам пра Вітава. Цікава было паглядзець здымкі, прэзентаваныя з выкарыстаннем мультымедыяльнай тэхнікі і паслухаць даклад Іаанны Сапяжынскай.**

— Я гісторык і грахом было б не пакінуць памяткі аб мінулым сваёй вёскі. Выдадзены фотаальбом — рэзультат двухгадовай працы, збірання, сартавання і апісвання здымкаў, да якіх далучыла я гістарычны нарыс пра Вітава. У другім выданні планую дакладней апісаць гісторыю майго роднага сяла, — сказала Іаанна Сапяжынская, аўтарка фотаальбома з сотнямі здымкаў, сярод якіх найстарэйшая фатаграфія з 1911 года. У першай частцы кніжкі, азагалоўленай «У Гродзенскай губерні Расійскай імперыі», змешчана многа здымкаў салдат з Вітава, якія служылі ў царскай арміі, а таксама людзей, якія выконвалі розныя прафесіі або займалі адказныя пасады, а таксама мясцовых землярobaў. Частка фатаграфій сведчыць аб сацыяльным павышэнні, якога дабіліся выхадцы з Вітава і іншых вёсак у Расійскай імперыі, на што звяртае ўвагу таксама Дарафей Фіёнік, вядомы даследчык нашага мінулага. Многа фатаграфій у альбоме тычыцца перыяду ІІ Рэчы Паспалітай. Багата ілюстраваны таксама перыяд Другой сусветнай вайны. Аднак найбольш здымкаў тычыцца пасляваеннага перыяду, ажно да шасцідзесятых гадоў. Многа фатаграфій захоўвае вялікую вартасць не толькі для саміх фатаграфаваных асоб і іх нашчадкаў, але і для даследчыкаў гісторыі і мясцовай культуры.



У вясковай святліцы сабраліся жыхары Вітава і запрошаныя госці

— Выданне фотаальбома — вельмі цікавая ініцыятыва, якая тычыцца таксама суседніх вёсак, спалучаных сямейнымі сувязямі з Вітавам. Я, напрыклад, з суседняга Забагоння, але ёсць тут асобы з Доўгага Броду і іншых мясцовасцей, якія хочуць паглядзець даўнія фатаграфіі. На гэтую вартасную ініцыятыву далі мы таксама дафінансаванне з гміннага бюджэту, — заявіў Юры Карпюк, старшыня Рады Дубіцкай гміны.

Са сваёй старэнькай матуляй на спатканне прыехала Тамара Крайнік з Доўгага Броду, каб прыдбаць новы альбом і паглядзець на вядомых ім людзей. Сярод сабраных было многа старэйшых жанчын і мужчын, якія ў час прэзентацыі здымкаў распазнавалі сябе, сваіх сямейнікаў, знаёмых і каментавалі гістарычныя падзеі.

— Мы лічым важным не толькі будову дарог, але робім стаўку таксама на даследаванне нашай гісторыі. Манаграфія ў здымках аўтарства Іаанны Сапяжынскай вельмі важная для нашай гміны, бо спрычыняецца да захавання тоеснасці нашага насельніцтва. Гэта другая такая ініцыятыва пасля кніжкі аб Дубіцкім прыходзе матушкі Евы Аўксеціюк. Важная яна не толькі для старэйшых людзей, якія на здымках у фотаальбоме знойдуць сваіх продкаў або і сябе саміх, але таксама для моладзі і дзетак, якія будуць мець памятку аб сваіх продках, — сказаў войт Лявон Малашэўскі. — Марыцца нам таксама выдаць кніжку пра наш Старакарнянскі прыход з паасобнымі яго вёскамі і дзеля гэтага звярнуліся мы да спадарыні Іаанны Сапяжынскай за дапамогай.

У мерапрыемстве ўдзельнічалі настаяцель Старакарнянскага прыхода протаіерэй Мікалай Маркевіч і настаяцель Белавежскага прыхода протаіерэй Сяргей Корх, ураджэнец Вітава.

— Выдаванне архіўных матэрыялаў вельмі важнае, бо здымкі могуць загінуць разам з адыходам старэйшага пакалення. Дай Бог, каб нашыя нашчадкі не забывалі аб нашым прошлым, — заявіў протаіерэй Мікалай Маркевіч і дадаў, што вельмі хацеў бы, каб выйшла гістарычная кніжка аб Старакарнянскім прыходзе.

Да сабраных звярнуўся, між іншым, нядаўна прызначаны на пасаду дырэктара Белавежскага нацыянальнага парку Міраслаў Сцепанюк, старшыня Аб'яднання «Спадчына Падляшша», якое з выкарыстаннем еўрасаюзных сродкаў і з падтрымкай шматлікіх спонсараў выдала фотаальбом аб Вітаве. Гаварыў ён аб патрэбе збірання гістарычных матэрыялаў, здымкаў і выдавання публікацый аб нашых мясцовасцях.

— Гэта вельмі добрая для нас кніжка, бо, гледзячы на фатаграфіі, можам паўспамінаць мінулае. Я думаю, што гэта будзе таксама вельмі добрая памятка для нашых дзетак і чарговых пакаленняў. Тычыцца яна таксама мінулага іншых мясцовасцей нашага павета і ваяводства, — сказаў радны і заадно солтыс Вітава Вячаслаў Корх.

— У альбоме змешчаны старыя фатаграфіі, якія тычацца Бельскага надлясніцтва. Мы павінны надалей збіраць матэрыялы аб нашым прошлым і старацца захаваць нашу мову, — сказаў надляснічы Бельскага надлясніцтва Юры Анджэюк.

Сярод запрошаных гасцей былі таксама старшыня Рады Гайнаўскага павета Мікола Міхалюк, войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч, былы войт Дубіцкай гміны Анатоль Паўлоўскі, былы бурмістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк і прадстаўнікі мясцовых самаўрадаў. На сустрэчу прыбылі настаўнікі і працаўнікі культуры Гайнаўскага павета. Яны таксама павіншавалі Іаанну Сапяжынскую з выхадам фотаальбома. Аўтарка ў час спаткання цікава распавяла пра гісторыю свайго сяла, карыстаючыся мультымедыйнай прэзентацыяй «Вітава — нарыс гісторыі», са шматлікімі здымкамі, дакументамі і картамі Вітава і наваколля.

— Паводле легенды, заснавальнікам вёскі Вітултова (зараз Вітава — А. М.) быў вялікі князь літоўскі Вітаўт, якому падчас палявання спадабалася паляна ў Белавежскай пушчы і які патрабаваў заснаваць тут вёску, — лічыць Іаанна Сапяжынская. — Дакладнага года заснавання Вітултова не знойдзем у гістарычных крыніцах, але першая інфармацыя аб нашай мясцовасці змешчана ў Люстрацыі Падляшскага ваяводства з 1571 года. Пасяленцы прыбывалі сюды з Брэсцкай і Камянецкай зямель, з наваколля Драгічына, Бранска, Бельска і гэты працэс адбываўся паволі.

Працэс развіцця вёскі быў многа разоў тармажаны войнамі ў XVII і XVIII стагоддзях. З-за вайсковых змаганняў і эпідэмій чумы Вітава нішчэла і зноў узмацняліся працэсы яго насялення. У 1912 годзе жыло ў Вітаве ўжо 229 чалавек, але амаль усе жыхары сяла падаліся ў бежанства. У час іх неприсутнасці пажар вельмі моцна знішчыў вёску, а пасля вяртання з бежанства, у 1921 годзе ў час перапісу насельніцтва ў Вітаве пражывала толькі 86 жыхароў. Іаанна Сапяжынская распавяла, між іншым, пра дзейнасць у Вітаве гуртка Беларускай сялянска-работніцкай грамады, да якой належалі Яўхім Тарадынка, Цімафей Хмель, Кірыла Баравік, Кандрат Іванюк і Аляксандр Назарук, гаварыла пра вайсковыя атрады «Лупашкі» і «Бурага», што дзейнічалі пасля Другой сусветнай вайны і ад якіх пацярпелі таксама жыхары Вітава і навакольных вёсак. У час спаткання гаварылася аб сённяшнім Вітаве, а солтыс Вячаслаў Корх паведаміў, што зараз у Вітаве працуе практычна толькі трох дзейсных гаспадароў і амаль знікла гадоўля кароў, бо бліжэйшы пункт скупкі малака знаходзіцца ажно ў Дубічах-Царкоўных, куды складана было б штодзень давозіць малако з пушчанскай вёскі. Старэйшыя людзі гадуюць свіней на свае патрэбы і з дапамогай сваіх гарадскіх дзетак і знаёмых абрабляюць яшчэ выдатную большасць палёў, бо горшую зямлю аблясяюць.

— У Вітаве жывуць толькі дзве маладыя сям'і. Прыблізна трэцяя частка дамоў пустуе, а ў большасці хат жывуць старэйшыя людзі. Прыезджыя збудавалі ў нашай вёсцы два шыкарныя дамы, бо прыцягнула іх сюды прыгожая прырода. Можа маладыя станчуць купляць тут хаты, бо і на працу ў Гайнаўку адсюль недалёка, — заявіў солтыс Вячаслаў Корх.

— Я не супраць таго, каб нашыя людзі прадавалі пустуючыя дамы, але хацела б, каб яны трапілі ў рукі асоб з нашых тэрыторый, якія, пасяліўшыся ў Вітава, захоўвалі б мясцовыя традыцыі, — лічыць Іаанна Сапяжынская. З яе ініцыятывы ў 2010 годзе побач Вітава быў пастаўлены праваслаўны крыж, на месцы халерычнага могільніка, і былі ўкопаны праваслаўныя крыжы на акраінах Вітава. У час мультымедыйнай прэзентацыі апошнія здымкі тычыліся, між іншым, урачыстасці асвячэння згаданых крыжоў і беларускага фэсту «І тут жывуць людзі», арганізаванага Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы.

## Маўр зрабіў сваю справу...

У Бацiках-Дальнiх каля Сямятыч адбыўся вясковы сход для выбару новага солтыса. Стаў iм Андрэй Галёнка — малады яшчэ земляроб, вельмi аддадзены сельскагаспадарчым справам. Якiм ён будзе солтысам, пакуль што невядома — пакажа час.

Сяргей Семянюк, якi закончыў сваю службу ў карысць вясковай супольнасцi, абавязкi солтыса выконваў 37 гадоў. Прыгожы стаж! Мала хто ў краiне мог бы з iм зраўняцца. Быў гэта добры солтыс, чулы на патрэбы вёскi i паасобных яе жыхароў. Бо сам Семянюк гэта добры, прыстойны чалавек, якi — калi б не споўнiлася яму восемдзесят гадоў — яшчэ шмат добрага мог бы зрабiць для сваiх Бацiк. Але калi рашыў, што ўжо „досць", значыць, што сапраўды ўжо яму было цяжка спраўляцца з усiмi абавязкамi.

Рашэнне Сяргея Семенюка ў Сямятычах ведалi i таму прысутная на сходзе сакратар Гмiннай управы ведала чаму i дзеля чаго едзе ў Бацiкi. I пасля 37 гадоў грамадскай працы ў карысць гмiны i асяроддзя сардэчна (?), у кароткiх словах падзякавала старому солтысу, працягваючы яму сваю руку для пацалавання. I нiхто ў Сямятыцкай гмiне не падумаў, каб у гэтай руцэ апынуўся хаця б букет кветак на развiтанне, не гаворачы аб больш канкрэтнай форме аказання ўдзячнасцi. Навошта: „Маўр зрабiў сваю справу, маўр можа сыходзiць".

Вельмi мяне цiкавiць, цi калi ўрэшце сямятыцкi таварыш начальнiк, прабачце, вiдаць, я памылiўся, бо цяпер гэта пан войт — Зарэмба будзе выходзiць на падобна заслужаную пенсiю, з iм абыдуцца так сама i ў такi ж сухi i халодны спосаб? Не хочацца мне ў гэта верыць...

А Семянюк? Ён жа ж нiякага спiса ўзнагароджаных для ператомленых чыноўнiкаў не саставiць, няхай тады iдзе з Богам...

**Марк ЦЫБАРТ**

## Любіцелі рэлігійнай паэзіі

29 лiстапада ў Гайнаўскiм доме культуры адбыўся VIII Дэкламатарскi конкурс праваслаўнай рэлiгiйнай паэзii. Удзельнiчала ў iм 150 вучняў з Гайнаўкi, Белавежы, Боцькаў, Чыжоў, Дубiч-Царкоўных, Нараўкi, Новага Корнiна i Бельска-Падляшскага. Узровень дэкламатараў — як ацанiла журы — быў самы высокi. Паэтычныя творы былi на царкоўнаславянскай, рускай, беларускай, лэмкаўскай i польскай мовах. Дэкламацыi адбывалiся пры iконе i ў бляску свечак.

Сярод дашкольнiкаў першае месца заняў **Паўлiк Алексяюк** з Прадшколля № 3 у Гайнаўцы. У катэгорыi I-III класаў падставовай школы найлепш зарэкамендаваў сябе **Андрэй Бабулевiч** з ПШ № 6 у Гайнаўцы. У катэгорыi IV-VI класаў падставовай школы першынство заваявала **Аляксандра Буслоўская**, вучанiца ПШ № 6 у Гайнаўцы. У катэгорыi вучняў спецыяльных школ першае месца заняла **Эва Чэркаўская** з Бельска-Падляшскага. Сярод гiмназiстаў вяршы найлепш дэкламавала **Магдалiна Гаўрылюк** з Гайнаўкi. У катэгорыi вучняў сярэднiх школ першае месца заняў **Дам'ян Сурэль** з Гайнаўкi.

Другое i трэцяе месцы ў конкурсе ва ўсiх катэгорыях занялi адзiнаццаць дашкольнiкаў i вучняў.

**(яц)**

# Марта з Бельска ў „Бітве на галасы"

*Размова з Мартай Маліноўскай з Бельска-Падляшскага*



Марта Маліноўская з мамай Лідай

**„Ніва": — *Ты стала нашай экспартнай шоўменкай у тэлебачанні, разам з калегамі з Бельска-Падляшскага. І пра Твой горад часта мы чулі ў II праграме Польскага тэлебачання ў талент-шоў „Бітва на галасы", дзе твая група з васьмі іншых дайшла амаль да фіналу.***

**Марта Маліноўская:** — Так я пра сябе і пісала ў той праграме: „Я нарадзілася і выхавалася ў малой мясцовасці Бельск-Падляшскі. Гэта пагранічча шматлікіх культур: беларускай, украінскай і польскай. Вучылася ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім...". Добра здадзены атэстат сталасці дазволіў мне паступіць у вышэйшую школу на факультэт маіх мараў. Сёлета я пачала вучобу ў Галоўнай сельскагаспадарчай школе ў Варшаве на факультэце фінансаў і бухгалтэрыі. Другім маім запалам з'яўляецца матэматыка, што (невядома чаму) здзіўляе людзей вакол мяне. Мая прыгода з музыкай пачалася, здаецца, разам з маімі народзінамі, паколькі мая сям'я кайфуе ад музыкі і кожная сямейная сустрэча канчаецца супольным спяваннем за сталом. Я кончыла дзяржаўную музычную школу I ступені і спяваю ў Студыі песні ФАРТ, якая дзейнічае пры Бельскім доме культуры — магу смела яго назваць маім другім домам! Я з'яўляюся „станоўча завіраванай" дзяўчынай, якая часта заражвае іншых смехам.

***— І як Табе ўдаецца спалучыць усе гэтыя жыццёвыя жарсці?***

— Ну, вось, я ўжо студэнтка ў Варшаве. Цяжкавата цяпер, галоўным чынам з-за хвастоў, якіх я дарабілася ў час „Бітвы", ды вельмі падабаецца мне гэты кірунак вышэйшай адукацыі. Спадзяюся, што кончу яго з добрым вынікам. Ды хочацца мне таксама далей развіваць свой запал звязаны з музыкай. Спяваць я пачала ў пяцігадовым узросце, калі мая мама Лідзія выслала мяне да пані Юстыны Пажазінскай. Я прымала ўдзел у фестывалях для дзяцей. На жаль, а можа добра, бо цяжка цяпер гэта ацаніць, перастала я тады спяваць недзе на дзесяць гадоў. І калі ў нашай школе пачала вучыць пані Анна Вярцінская, пачала я сваю прыгоду з беларускай песняй. Мая мама шмат гадоў прымала ўдзел у Фестывалі беларускай песні і падобных да яго конкурсах, дык была вельмі рада з дачушкі. Пачаткова я спявала з ансамблем з „тройкі", пасля стала выступаць як салістка. Раз было лепш, раз горш, ды, здаецца, я заўжды была на подыуме. Я вельмі палюбіла гэты фестываль, вядома, не толькі таму, што заўжды штосьці выйгравала *(смех)*, ды ў яго ёсць свой клімат. Пад канец 2008 года, пад уплывам розных фактараў, я рашыла вярнуцца ў студыю песні ФАРТ. І з перспектывы часу лічу гэта адным з лепшых маіх рашэнняў у жыцці. Пані Юстына пераняла палачку падрыхтоўкі мяне да Фестывалю беларускай песні, але ўжо для дарослых.

***— Усё ж адважылася Ты пайсці на кастынг у агульнапольскае талент-шоў...***

— Спачатку я не мела намеру ісці на кастынг, таму што ніколі не захаплялі мяне падобныя конкурсы, бо менш люблю такое камерцыйнае спяванне. Ды калі мая сяброўка Ёля Астроўская дасталася ў каманду Юлі і расказала мне, як усё гэта выглядала, я падумала, што гэта файная прыгода і ў дадатку агромны досвед. Я выбрала кастынг у Варшаве, найбліжэй маёй школы. Ад пачатку мяне цешыла, што адбор вёў Пётр Рубік. Я дамовілася з Юлітай Катовіч, ды калі мы прыйшлі, аказалася, што з намі ёсць яшчэ і Эдыта Пашкоўская, і Пётр Балеста. Вядома, усе мы, бальшчане, трымалі пальцы адзін за аднаго, таму што вельмі любім быць з сабою і разам працаваць. У першы дзень кастынгу я, Юліта і Пятрусь атрымалі г.зв. „сонейкі", значыць, адразу даведаліся, што назаўтра маем зноў прыйсці на кастынг. Аказалася, што Эдзю таксама запрасілі, увечары, тэлефанічна. На другі дзень пасля доўгіх стрэсуючых выступленняў было ўжо вядома, што ўсе бальшчане апынуліся ў варшаўскай камандзе Пятра Рубіка.

***— Вашы выступленні захаплялі лёгкасцю і майстэрствам. Як вам гэта давалася?***

— Рэпетыцыі, рэпетыцыі і яшчэ раз рэпетыцыі. Агромная праца, таму што мы рыхтавалі сваю песню, у двух адрэзках нават дзве і разам з усімі *Opening*, значыць, песню, якая адкрывала адрэзак конкурсу. Хаця гэта была цяжкая праца, асабліва харэаграфія, дзе выціскалі з нас проста сёмы пот, — гэта былі таксама цудоўныя эмоцыі. І хаця бывала, што нам ужо ўсяго хапала, дык эмоцыі, якія спадарожнічалі нам на *live*, былі такія агромныя і такія дзіўныя, што мы былі гатовы аддаць усё, каб толькі прайсці далей! На шчасце, заўсёды мелі кагосьці, хто ў тыя цяжкія хвіліны нас падтрымліваў. Тата заўсёды пільна сачыў за ўсім перад тэлевізарам, а мама з сястрой (Магдай) нераз паяўляліся сярод гледачоў у студыі. На *live* наведала мяне значная частка сям'і, усе, каго я паспела запрасіць. Ды заўсёды сям'я і знаёмыя глядзелі ўсё ў тэлебачанні.

***— Ну і мы ўсе слалі на вас эсэмэскі, дзеля падтрымкі. Працавалі вы з цікавымі людзьмі.***

— З цудоўнымі! Харэографамі, рэжысёрамі, тэлеаператарамі, стылістамі, візажыстамі... А перш за ўсё з іншымі ўдзельнікамі, бо ў сапраўднасці гэта яны былі самыя цудоўныя і стварылі самую прыгожую атмасферу. Не магу абмінуць Пятра Рубіка. Ён вельмі сімпатычны і заўжды нас падтрымліваў, нават калі добра ведаў, што ўжо запозна і мы ў рассыпцы. І Алана Урбанка, нашага хормайстра, які выканаў агромную працу, каб нашыя творы гучалі так прыгожа. Усю „Бітву на галасы" ўспамінаю па-рознаму, бо заўсёды трапляюцца нейкія нямілыя моманты, хвіліны, ды думаю, што калі б усё было такім каляровым, дык ніхто не прыкмеціў бы тае сапраўднае красы дзён праведзеных у студыі, а асабліва выступленняў у прамым эфіры.

***— Ці прадбачваецца працяг вашага поспеху?***

— Пётр Рубік запрасіў нас, вядома, на свае канцэрты, заўсёды і ўсюды будзе нас бачыць з ахвотай. Тыя, у каго быў час і ахвота — спяваюць з хорам, іншыя, у тым ліку я, сядзім з гледачамі. Думаю, што гэта пытанне толькі часу і кожны з нас будзе мець нагоду зрабіць штосьці з Пятром. Найбліжэйшы канцэрт „Апісанне свету" у Любліне.

***— А Твае планы?***

— У мяне асабіста няма задалёкіх планаў. Пакуль што маю намер справіцца з семестрам у вучэльні *(смех)* і далей спяваць. А як усё тое складзецца, пабачым...

***— Жадаем поспехаў у жыцці, рахунках і спяванні!***

**Размаўляла Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Беларусі бракуе свабоды

***Па старонках альманаха суайчыннікаў замежжа „Беларус-2012”***

Прыгожы і самы аб’ёмны літаратурны альманах беларускіх пісьменнікаў замежжа „Беларус” 2012 года выйшаў з друку ў Нью-Йорку і ўжо трапіў на Беларусь. Гэта шосты том твораў нашых суайчыннікаў і ён самы вялікі — налічвае 331 старонку, дзе змешчаныя творы 24 беларускамоўных аўтараў з 10 краін свету. Калі пагартаць ранейшыя выпускі „Беларуса”, то ў альманаху за 2007 год былі змешчаныя творы 18 аўтараў з 9 краін свету, за 2008 год — адпаведна 19 аўтараў з 9 краін, за 2009 год — 23 аўтараў з 9 краін, за 2010 год — 24 аўтараў з 10 краін, за 2011 год — 19 аўтараў з 10 краін.

Альманах-штогадовік выдае са жніўня 2007 года нью-йоркскі беларускі грамадскі дзеяч Марат Клакоцкі, які з 2002 да 2010 гадоў рэдагаваў галоўную газету суайчыннікаў замежжа — «Беларус». Марат Клакоцкі вельмі адукаваны і вопытны рэдактар, ён добра ведае беларускую літаратуру, культуру, журналістыку, палітыку, выдавецкую справу. Дзякуючы яму, пад адну вокладку ў альманах адзін раз на год трапляюць аўтары, якія пастаянна пражываюць па-за межамі Беларусі. Іх аб’ядноўвае выданне Марата Клакоцкага. І ў гэтым выданні, заўсёды ёсць што пачытаць, аб творах якіх можна доўга разважаць, спрачацца, думаць.

Шыкоўны „Беларус” за 2012 год парадаваў дэбютам Тацццяны Саланко. Вершы паэткі пра незалежнасць, родную мову, Радзіму вылучаюцца смеласцю, праўдай і непасрэднасцю. Вось некалькі строф з яе твораў:

*Мы разам заспяваем гімн,*
*Мы разарвем рэжыму межы.*
*Няхай вядома будзе ўсім,*
*Што беларусы — незалежны!*

* * *

*Змагацца будзем мы усе,*
*Народ наш стаў адважным, смелым.*
*І Беларусь для нас ЖЫВЕ*
*Пад сцягам бел-чырвона-белым!*

Паэтка прыгожа апявае Бацькаўшчыну, яна перажывае за яе лёс, яна марыць стаць птушкай і паляцець „у край, дзе ручаі звіняць, дзе сонца будзе прачынацца”. Але птушкай ёй ніколі не быць, таму ёсць іншая надзея, надзея і спадзяванні на Радзіму — Беларусь:

*Як добра, што ты ёсць, Радзіма,*
*Пакуль ты ёсць, жыву і я.*

Тэму птушак, прыроды і Радзімы працягвае ў альманаху вопытная і вядомая беларуская паэтка з Украіны Іна Снарская. Яе вершы глыбокія, шчырыя, філасофскія. „Я прылятаю... на плечы маладой атавы саджуся сонечнаю птушкай”, — піша Іна Снарская ў вершы „Зіма і птушкі”. У іншых радках і вершах паэтка таксама не абмінае птушак. Магчыма птушкі для тых, хто жыве далёка ад Бацькаўшчыны, з’яўляюцца нейкім сімвалам вяртання і мужнасці, цярпення і смеласці. Птушкі Іны Снарскай прысутнічаюць амаль ва ўсіх яе вершах, часам іх і замнога: „урастаю травой і птушкамі”, „азярнулася маўклівая птушка сумная начы”, „няхай ляцяць, як птушкі, над зямлёй”, „да першага сну паляцела, як птушка, душа”, „а мы ўспаміналі лета, за пазухай птушак хавалі”, „цені — сляпыя птушкі”, „мы разляцеліся, як птушкі, па галінах” і г.д.




Сур’ёзную падборку паэтычных радкоў вынес на суд чытачоў „Беларуса-2012” Алег Мінкін. У іх паэт разважае пра жыццё і смерць, пра Эльдарада і гастарбайтараў, для якіх „так мала грошай і так многа працы...”.

З вершамі ў „Беларусе” выступаюць Аляксей Арцёмаў, Лявон Баравы, Пётар Мурзёнак, Юрась Шамецька, Макс Шчур. Дарэчы, Макс Шчур — паэт-філосаф, якога хочацца чытаць заўсёды. Яго творы вылучаюцца сур’ёзнасцю, развагамі пра жыццё і смерць, а таксама сучаснасцю ва ўсіх яе праяўленнях. У яго адсутнічае лірыка, хіба можа тады яна ёсць, калі паэт „да цемнаты гуляў у клятага паэта”, ці тады, калі „худзеюць манашкі, каб жаніху быць даспадобы”.

Але сярод жменькі падобных паэтычных строф сустракаюцца і такія, дзе паэт, як самурай, разважае, што „любая кніга ёсць загробным светам...”, дзе паэт разважае і па-беларуску:

*Прыкольна памерці пад А. С. Пушкіна —*
*А ты паспрабуй, як Юлі Таўбін,*
*Каб кат, паводле прымхі навушніка,*
*У безабаронага кулю ўбіў.*

Сёлета ў лютым не стала таленавітага Сяргея Вітушкі, які жыў у Вільні. Паводле беларускіх, рускіх і англійскіх казак вельмі цікавыя п’ескі пакінуў ён нашчадкам. Тры п’есы „Верабей і Сцяблінка”, „Бурчун і Жэўжык”, „Замак-замок” друкуюцца ў альманаху.

Прыемна, што на старонках „Беларуса” зноў з’явіўся Якуб Лапатка, які жыве ў Фінляндыі, і ўспамінае пра свой кут лясны, успамінае цікава і шчыра. У 2008 годзе Якуб Лапатка пераклаў на беларускую мову фінскі эпас „Калевала”, які да сённяшніх дзён так і не выдадзены асобнай кніжкай.

Акрамя Якуба Лапаткі шмат у альманаху „Беларус” надрукавана і іншых успамінаў. Валянціна Якімовіч прыгадвае паэта Анатоля Сыса, Дзмітры Шатыловіч успамінае 1943-1944 гады і прымусовую працу ва Усходняй Прусіі, Алесь Тарановіч настальгуе па тэатры „Steel orgasm”, Пётр Мурзёнак згадвае беларускія класы ў Атаве і іншыя.

Ірына Варабей публікуе рэштку апавяданняў з кнігі Паўлін Джонсан-Тэкеянуакей „Легенды Ванкувэра”. Рэштку таму, што частка апавяданняў з гэтай легенды былі апублікаваны раней. Дарэчы, Ірына Варабей у 2011 годзе з брэндам „SoB” была прынята ў Гільдыю канадыйскіх дызайнераў вышыўкі. У 2008 і ў 2009 гадах яна была пераможцам штогадовых фотаконкурсаў нацыянальнага часопіса „Canadian Geographic” (Канада).

Шмат працуе ў апошні час на ніве літаратуры Віталь Воранаў. Тыя празаічныя развагі Віталя, якія апублікаваны на старонках „Беларуса” даволі цікавыя і разнастайныя. У адной мініяцюры аўтар адказвае на пытанні: чаго бракуе Беларусі? Аказваецца, нам бракуе свабоды. „Свабоды і толькі свабоды. Свабода, каб зразумець, што анічога больш не бракуе Беларусі...”, — разважае аўтар.

А яшчэ Віталь Воранаў знаёміць чытачоў і са сваімі апавяданнямі, напісанымі адным сказам. І што ж, атрымалася арыгінальна. Ну, напрыклад, „Яго засудзілі да пажыццёвага зняволення, па падазрэнні ў тым, што ён несмяротны”. Адзін сказ, але ўсё ў ім канкрэтна і зразумела. Лішняга нічога няма.

Са сваімі новымі творамі ў альманаху „Беларус” выступаюць і такія аўтары, як Сяржук Сокалаў-Воюш, Анатоль Маўчун, Цімох Ліякумовіч, Віталь Зайка і іншыя творчыя беларусы замежжа.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## У Кляшчэлях

21 лістапада вучні ІІ і ІІІ класаў гімназіі пабывалі ў Оперы і Падляшскай філармоніі ў Беластоку на мюзіклe „Корчак” у пастаноўцы Рабэрта Скальмоўскага. Арганізатарам экскурсіі была настаўніца польскай мовы Анна Гаеўская.

— Мюзікл выклікаў у нас непаўторнае ўражанне, — успамінаюць гімназісты. — Гэта гісторыя вядомага сваім гераізмам доктара Януша Корчака — педагога і аўтара шматлікіх дзіцячых кніжак, які апекаваўся яўрэйскімі дзяцьмі. Расказвае аб апошніх тыднях жыцця ўгета, аб любові, мужнасці і ахвярнасці. Глядзеўшы мюзікл, мы змаглі пабачыць і ўсвядоміць сабе чым з’яўляецца вайна, страх, што абазначае бязмежная любоў і ахвярнасць. Мюзікл кранае за сэрца і надоўга застаецца ў памяці, так як і сам герой Корчак — звычайны чалавек з незвычайным сэрцам і смеласцю. Варта было паглядзець мюзікл хаця б таму, каб задумацца над тым, што каштоўнае ў жыцці.

* * *

Гарадская публічная бібліятэка разам з Гарадскім цэнтрам культуры спорту і адпачынку арганізавалі ІІ Чытальніцкі конкурс „Сустрэча з паэзіяй”. Мэтай конкурсу было, між іншым, удасканальванне маўленчай культуры вучняў і папулярызацыя чытальніцтва.

У конкурсе ўдзельнічала 29 вучняў. У катэгорыі І-ІІІ класаў лаўрэатамі першых трох месц сталі (адпаведна) Моніка Ваўрусевіч, Дагмара Гурлік і Мартына Клем. Дыпломы атрымалі Оля Паўловіч і Якуб Дрангоўскі.

У катэгорыі IV-VI класаў перамаглі (адпаведна) Агнешка Гук, Караліна Сідарук, а на ІІІ месцы апынуліся Наталія Шымчак і Магда Місюк. Дыпломы атрымалі Анна Нікіцюк і Юлія Купрыцюк.

У катэгорыі гімназістаў І месца заняла Караліна Місюк, другога не прызначылі, ІІІ месца — Эвеліна Окунь і Эвеліна Младзяноўская. Дыплом атрымала Эмілія Клем.

* * *

У лістападзе школьны гурток Польскага чырвонага крыжа аб’явіў конкурс пад лозунгам „Папяроса кусіць, а дымок душыць”. Мэтай конкурсу была папулярызацыя здаровага ладу жыцця і ўсведамленне шкоднасці нікаціну. На конкурс было дасланых 45 прац. Журы ў складзе Антаніна Леанкевіч, Катажына Андрасюк і Магдалена Мартыновіч прызначыла ўзнагароды.

У катэгорыі І-ІІІ класаў перамаглі Катажына Ліскавецкая (І месца), Якуб Дрангоўскі (ІІ месца), а ІІІ месца занялі Малгажата Ляскоўская і Міхал Іванюк.

У катэгорыі IV-VI класаў лаўрэатамі сталі Барбара Календа (І месца), Магдалена Місюк (ІІ месца), а ІІІ месца занялі Анна Клімук і Караліна Сідарук.

Сярод гімназістаў перамаглі Магдалена Рошчанка (І месца) і Катажына Шчука (ІІ месца), а на ІІІ месцы апынуліся Аляксандра Раманюк і Матэвуш Заzулінскі. Арганізатарам конкурсу была апякун школьнага гуртка ПЧК Ева Казлоўская-Сцепанюк. Яна пахадайнічала таксама ў Гміннай камісіі вырашання алкагольных праблем за сродкі на ўзнагароды. **(ус)**

## СПАЧУВАННІ

З вялікім сумам мы прынялі звестку пра смерць Спадара

**МАРКА САБАЛЕЎСКАГА**

Вялікага Чалавека і Сябра нашае школы, многагадовага фундатара стыпендыяў нашым вучням.

Словы глыбокага спачування Сям’і выказваюць Дырэкцыя, Педагагічная рада і вучні Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы.


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Лісты да Дзеда Мароза!

Дарослыя, асабліва зімой, прыпамінаюць сваім малым і вялікім дзецям, што Дзед Мароз праўдзівы і абдароўвае падарункамі ўсіх паслухмяных дзяцей або тых, якія гэтага патрабуюць. Мы абсалютна верым у Дзеда Мароза і на ўроку беларускай мовы пісалі да яго пісьмы.

Многія з нас ад нядаўна сталі валанцёрамі і таму ў гэткі час мы неяк па-іншаму глянулі на Каляды і постаць Дзеда Мароза. Пачалі бачыць крыху больш, чым кончык свайго носа. Вось, што ў нас атрымалася.


Фота Ганны Кандрацюк

**Аня Б. і Наталля Б.:** Дарагі Дзядуля! Мы рыхтуемся да Каляд і хочам ад Цябе атрымаць фотаапарат і кнігу „Зайтра III". Не думай толькі, што мы забыліся аб іншых. Мы ведаем, што на свеце многа дзяцей, якія не могуць шчасліва правесці свята, не дастануць падарункаў і часта будуць сумныя. І таму мы просім Цябе, каб Ты падарыў ім шчаслівае Раждзяство Хрыстова і хаця маленечкі падаруначак.

**Сцёпка, Мішка, Давід, Садо:** Дарагі Дзед Мароз! Мы ведаем, што перад святамі ўсе пра Цябе раптоўна прыпамінаюць і штосьці просяць. А можа так замест падарункаў зрабі, каб бяздомныя знайшлі сабе дах над галавой, беспрацоўныя — працу, каб усе людзі мелі належныя ўмовы жыцця (без бедных і багатых), а ва ўсім свеце не было войнаў. Няхай таксама наш сябра Міхал выздаравее.

**Вікторыя Б.:** Дзед Мароз! Кожны год, калі на Куццю распакоўваю свой падарунак, я думаю аб усіх дзецях, якія не маюць такога шчасця, як я. Калі б я магла дапамагаць Дзядулю, я падаравала б дзецям многа цацак, ласункаў і іншыя патрэбныя да шчасця рэчы.

**Наталля В.:** Снежань. Зіма пачалася ўжо на добрае. Навокал ляжыць снег, а свет выглядае быццам захутаўся ў белую пярынку. Але… ці ўсіх гэта цешыць?

Ужо неўзабаве свята, першая зорачка, святочны стол, падарункі. У гэткі час людзі не думаюць толькі пра сябе і становяцца лепшымі — часцей усміхаюцца, дапамагаюць іншым, даюць падарункі, не забываюць аб тых, якія патрабуюць большай дапамогі.

Дзед Мароз! Я хацела б, каб асобы, якія жывуць у адзіноце, знайшлі сям'ю, з якой могуць правесці свята. Можа ім пашчасціцца і знойдуць сабе „братнюю душу" на ўсё жыццё.

Дзед Мароз! Я ведаю, што ў Цябе вялікая моц і таму зрабі так, каб усе людзі былі шчаслівыя і спазналі пачуццё кахання.

Усім дзецям і дарослым жадаем вясёлых, сямейных Каляд і добрага, спакойнага 2013 года.

*Гімназісты з Нараўкі*

# Размова з Наталляй ВАСЬКО,

**вучаніцай І класа Гімназіі ў Нараўцы, якая атрымала вылучэнне ў літаратурным конкурсе беларускай паэзіі і прозы.**



**„Зорка":** — *Наталька, ведаем Цябе як публіцыстку, карэспандэнтку „Зоркі". У конкурсе Ты праявіла сябе як паэтка.*

**Наталля Васько:** — На гэта паўплываў восеньскі песімізм, які мне хацелася скінуць з душы. Таму я села і напісала вершы…

**З:** — *Так звычайна, села і напісала?*

**НВ:** — Не ведаю як сказаць… Яно надышло і я напісала… Гэта было дзіўнае пачуццё, як натхненне.

**З:** — *А раней Ты ўжо ўдзельнічала ў нейкім літаратурным конкурсе?*

**НВ:** — Не, гэта мой першы раз. Але ўжо ведаю, што ў наступным годзе напэўна прыму ўдзел у беларускім конкурсе.

**З:** — *Пэўна ўжо ведаеш, пра што будзе твая конкурсная праца?*

**НВ:** — Я ў наступным годзе пастараюся напісаць прозу, так думаю…

**З:** — *З якімі ўражаннямі едзеш дахаты. У сваю вёску Тарнопаль?*

**НВ:** — Хопіць, што бацькі пагляддзяць на мяне і ўсё будуць ведаць! Я такая шчаслівая, што гэтага не расказаць так звычайна… Гэта цудоўнае ўражанне.

**З:** — *Тады вiншуем Цябе з поспехам і зычым творчага развіцця.*

**НВ:** — Вялікі дзякуй!

**Наталля ВАСЬКО**

### Цемра

*Усе Цябе баяцца,*
*Усе цябе ненавідзяць,*
*Усе параўноўваюць цябе са смерцю,*
*Усе ідэнтыфікуюць цябе са злом,*
*Усе бачаць толькі цемру.*

*А ты толькі засланяеш сонца,*
*А ты толькі не даеш святла,*
*А ты проста – цёмна, цемра,*
*цемната.*

### Жыццё

*Ты так цяжкое.*
*Ствараеш многа пытанняў,*
*Выклікаеш шмат клопатаў.*
*Праз цябе плачу,*
*Дзякуючы табе адчуваю боль.*
*Аднак ты ўсім, што ў мяне ёсць.*

*У мяне ёсць адно жыццё і*
*Я не хачу яго страціць!*
*Дзякую, што я жыву,*
*Але без кахання паміру.*

### Мядзведзь

*Ты цёмна-карычневы*
*Як шакалад.*
*Ты вельмі моцны*
*Як галаўны боль.*
*Ты жывеш доўга*
*Як надзея.*
*Ты жывеш у вялікіх глушах*
*Як Белавежская пушча.*
*Ты кормішся салодкай стравай*
*Як мёд.*
*Ты не проста мядзведзік,*
*Якога бачу на сваёй паліцы.*


Фота Ганны Кандрацюк

# Твой род, твая Радзіма

**Маці, бацька, браты, сёстры. Яны твае самыя родныя, блізкія. Добра, калі ў цябе ёсць бабуля, дзядуля — гэта з самага малку твае дарагія сямейнікі. Калі ж іх няма, ці ведаеш ты, хто яны былі, як зваліся, ці ёсць у вас дома іх партрэты, іх фатаграфіі?**

**Ну, а хто былі бацькі тваіх дзядулі і бабулі — твае прадзеды? Як яны зваліся? Ці захоўваюцца ў вас рэчы, зробленыя іх рукамі, фатаграфіі, пісьмы?**

**Ці задумаўся калі ты, адкуль пайшоў твой род, адкуль пачалася твая дарога ў жыццё? Бо твая памяць — гэта памяць твайго роду, а памяць народа — вялікая кніга, якая называецца гісторыя.**

**Род і народ яднаюцца адным дарагім словам — Радзіма.**

*Васіль Вітка*

# Жыву тым, што ў школе!

**Размова з ІААННАЙ МАРКО — настаўніцай беларускай мовы ў Непублічнай школе імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. На агульны лік 80 навучэнцаў тут 71 вучань запісаўся на беларускую мову.**

**Ганна Кандрацюк:** — *Многія настаўнікі наракаюць, што дзеці не хочуць хадзіць на ўрокі беларускай мовы, не хочуць чытаць, вывучаць словы. А як у Вас?*

**Іаанна МАРКО:** — У нас, у Беластоку, хочуць! Працуюць на ўроках, рашаюць хатнія задачы, рыхтуюцца да конкурсаў. Часта прыходзяць бацькі, каб спытаць мяне пра нейкую задачу, бо яны разам рыхтаваліся да кантрольнай...

**ГК:** — *Неверагодна!*

**ІМ:** — Калі рыхтуемся да конкурсаў, тады застаемся пасля ўрокаў і цэлам некалькіх гадзін шчыра працуем. І гэта не так, што я іх шукаю па залах і прымушаю сядзець пасля ўрокаў. Не, яны ведаюць, што ў нас дадатковыя заняткі. Стаяць перад залай і клічуць: — *Проша пані, мы ўжо тут!*

**ГК:** — *У Вас найважнейшы прадметны конкурс. Таксама прымаеце ўдзел у многіх мастацкіх конкурсах?*

**ІМ:** — Мы ўдзельнічаем ва ўсіх беларускіх конкурсах і заўсёды ў нас многа ахвотных. Вельмі многа дзяцей хоча выступіць у „Родным слове". Ведаеце, яны ўжо пытаюць пра конкурсы, якія будуць за тры месяцы. А што рыхтуем зараз? Якраз пачалася падрыхтоўка да каляднага конкурсу „Gwiazda i kolęda", які адбудзецца ў Гарнізонным клубе.

**ГК:** — *Вы супрацоўнічаеце з Генадзем Шэметам, настаўнікам музыкі?*

**ІМ:** — Напэўна дапамагаю падбіраць яму рэпертуар, прапаную песні на словы класікаў, каб адначасова чагосьці навучыцца. Нашыя дзеці надзвычай музыкальныя, частка з іх выступае ў музычным спектаклі „Корчак", які ставіць Падляшская опера і філармонія.

**ГК:** — *Музычная культура школы сапраўды на прыстойным узроўні. Гэта адчувалася ў час юбілею школы, яе пяцігоддзя.*

**ІМ:** — Мяне цешыць, што беларускія песні падабаюцца дзецям, што яны іх спяваюць па-за ўрокамі. У нас заўсёды ў школьнай газетцы выбіраюць песню месяца і вось у верасні на першым месцы гіт-парада апынулася „Купалінка".

**ГК:** — *Як выглядае справа з падручнікамі?*

**ІМ:** — Для першага класа ўвогуле няма падручніка, так што ўсе матэрыялы, гульні і вершы трэба шукаць у сваіх кніжках, у інтэрнэце. Многія дапаможнікі прыходзіцца адбіваць на ксераксе. З дапаможнікамі сапраўды праблема. Не хапае, напрыклад, казак на кампактдысках. Калі пра падручнікі да іншых класаў, маем тое, што маюць усе нашыя школы.

**ГК:** — *Ці дзеткі і школа сняцца Вам пасля ўначы?*

**ІМ:** — Не, але калі вяртаюся дахаты, цэлы час жыву тым, што было ў школе. Так што няма ў мяне так: заходжу ў хату і ўжо не думаю пра маіх вучняў. Як нешта раблю, то аднačасова думаю: а які верш будзе падыходзіць да таго ці іншага хлопца ці дзяўчынкі. Думаю пра сваіх дзяцей як пра асобных людзей, які ў каго характар, які тэмперамент. Пра тое, хто сказаў або прыдумаў на ўроку, або на перапынку. Часам смяюся сама да сябе, калі прыгадваю як яны на перапынку стараюцца штосьці сказаць ад сябе па-беларуску. Мае дзеткі проста файныя, і няма ў нас так, што кагосьці трэба прымушаць.

**ГК:** — *Дзякую ды жадаю Вам многа-многа поспехаў у 2013 годзе.*

**ІМ:** Дзякую.

# Музыка з кайфам

## Сустрэча з Белым

— Далёка адсюль у Беларусь? — запытаў у мяне Ўольтэр Уайт (Walter White), амерыканскі трубач, які ў Беласток прыехаў у якасці педагога па біг-бэндавай музыцы.

Так, ёсць у Беластоку адзін біг-бэнд. Заснавалі яго год таму ў Падляшскай оперы і філармоніі. І хаця няма ў яго добрай традыцыі, але іграюць у ім выдатныя музыкі, якім патрэба добрай практыкі і класных узораў. А няма для гэтага лепшай крыніцы, чым Злучаныя Штаты Амерыкі.

Уольтэр Уайт нарадзіўся ў горадзе Дэтройт, што ў штаце Мічыган, бліжэй усходняга ўзбярэжжа ЗША і адной з сусветных культурных сталіц свету — Нью-Йорка. Уольтэр шмат гадоў жыў і працаваў у гэтым горадзе, які носіць мянушку Big Apple (Вялікі яблык), але год таму вярнуўся на бацькаўшчыну.

— Там сабе адчуваю найлепш, гэта маё месца, — сказаў мне ў час размовы.

Гэта вельмі цёплы, адкрыты чалавек, з павагай да іншых людзей і... музыкаў.

— Розныя людзі былі з намі заняткі, але не заўсёды здараюцца асобы з такой увагай да другога чалавека і музыка, — хваляць свайго майстра ўдзельнікі беластоцкага біг-бэнда.

Уольтэр Уайт гэта трубач, які працаваў ужо з найлепшымі. Зараз працуе вядучым трубачом у „Dave Matthew's Manhattan Jazz Orchestra", вельмі паважаюць яго творчасць у далёкай Японіі. Сам напісаў больш за сорак сучасных кампазіцый, піша для фільмаў і тэлебачання, для біг-бэндаў, сімфанічных аркестраў ці камерных калектываў. Іграць пачаў вучыцца ў 5-гадовым узросце, ідучы следам старэйшага брата. Той зараз вядзе кавярню і маленькі музей духавых інструментаў, але ў сваёй кар'еры іграў таксама на цымбалах.

— Пытаю пра Беларусь, — гаворыць мне Уольтэр у час першай гутаркі, — бо ведаю некалькі беларусаў. Мой брат мае цымбалы з Беларусі.

Дэтройт, родны горад Уольтэра, таксама мае дачыненне да Беларусі, бо з'яўляецца адным з васемнаццаці гарадоўпабрацімаў Мінска. Не здзіўляе гэта хаця б таму, што Дэтройт — адзін з важнейшых хакейных цэнтраў ЗША. Там таксама праводзіцца буйны джаз-фестываль, дык дзе шукаць Уольтэру лепшага месца....

Уольтэр Белы (як называе сабе з моманту прыезду ў Беласток) у фінале майстар-класаў павёў цудоўны канцэрт, у час якога добраахвотна, яшчэ перад святамі, можна было падтрымаць таленавітую, але патрабавальную моладзь.

**i_basovka@o2.pl**

# Вершы Віктара Шведа

## Апраўдаўся

Ветэрынар сустрэў
Гаспадара Арцёма:
— Чаму вы паставілі хлеў
Пад вокнамі ўласнага дома?

Гэта ж зусім нездарова
У спалучэнні такім.
— Дагэтуль вяпрук і карова
Мне не хварэюць зусім.

## Конная язда

Занялася маці
Коннаю яздою.
Змагалася ў хаце
З лішняю вагою.

Пытаюць дзеці Фаму:
— Пахудзела мама?
— Конь згубіў, вядома,
Дзесяць кілаграмаў.

# Польска-беларуская крыжаванка № 53

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 48:

Як, бард, мата, караблік, карункі, ласка, гук, чарапаха. Калач, мара, парус, танк, бабка, га, дакупка.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Вікторыя Барэчка** з Нараўкі, **Патрык Мартынюк, Матэвуш Берашчук, Эмілія Раманчук, Эмільян Крысевіч, Аляксандра Валосік, Катажына Лаўрашук, Магда Хвашчэўская, Магдалена Ваўранюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

As
Obrzęd
Szkrzydła
Praca
Otawa
Anioł
Skrawek
Oj!
Oda
Kosmita
Brat
Jak
Radar
Rycerz
Gust
Głowa
Jan
Rudy
Adam
Turniej

# Свет непрафесійнага мастацтва


Мікола Ягадніцкі каля сваёй разьбы


Міраслаў Хіліманюк побач сваіх алейных карцін

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**У XIX аглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі, арганізаваным Гайнаўскім домам культуры, прыняло ўдзел 27 асоб — жывапісцы, разьбяры і аматары іншых галін мастацтва. Для непрафесійных творцаў, як і для прафесійных мастакоў, самае важнае — перадаць у выкананых працах свае думкі і эмоцыі. З такой перспектывай глядзелі іх аўтары на свае работы ў час адкрыцця конкурснай выстаўкі непрафесійнага мастацтва, якое адбылося 9 снежня ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы.**

Працы на гэты конкурс рыхтуюцца з вялікай стараннасцю. Іх аўтары хочуць запрэзентавацца з як найлепшага боку, а канкурэнцыя — вялікая, асабліва ў галіне жывапісу і разьбы. Цікавыя матывы і на прыстойным тэхнічным узроўні прадставілі на сваіх работах асобы з абмежаваннямі, якія такім чынам адлюстроўваюць свой багаты ўнутраны свет. Гайнаўскі конкурс закрыты для асоб з мастацкай адукацыяй, аднак частка яго ўдзельнікаў выконвае свае работы так, быццам раней атрымалі пэўную адукацыю ў галіне мастацтва. Іншыя аўтары паказалі акружаючы іх свет так, як яго бачаць і разумеюць.

На адкрыццё выстаўкі прыбыло многа гайнавян і жыхароў іншых мясцовасцей Гайнаўскага павета. У белмузеі сабраліся ўдзельнікі конкурсу, іх сямейнікі і асобы зацікаўленыя мастацтвам, мясцовыя самаўрадаўцы, у тым ліку бурмістр Гайнаўкі Ежы Сірак і яго папярэднік Анатоль Ахрыцюк, гайнаўскі стараста Уладзімір Пятрочук, мясцовыя радныя і гаспадары мерапрыемства — дырэктар Гайнаўскага дома культуры Расціслаў Кунцэвіч і дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк. Спачатку сабраныя пaглядзелі выставу, пасля адбылося падвядзенне вынікаў конкурсу і ўрачыстае ўручэнне ўзнагарод. Пазней можна было дакладней знаёміцца з мастацкімі работамі.

— Пасяджэнне конкурснай камісіі было бурлівае. Мы дайшлі да вываду, што не будзем ацэньваць прац у традыцыйны спосаб, што на гэты раз ацэнім прагрэс, які зрабілі непрафесійныя мастакі за год ці два-тры апошнія гады. Зразумела, бралі мы таксама пад увагу ўзровень непрафесійнага мастацтва. Асобам з мастацкай адукацыяй дапамагаюць іх выкладчыкі, прафесары, а творцы-аматары мусяць да ўсяго дайсці самі. Мы дзякуем ім, што паслухалі нашых парад і заўваг, бо сёлета ў непрафесійным мастацтве Гайнаўшчыны прагрэс бачны, — сказаў старшыня конкурснай камісіі, гайнаўскі мастак Збігнеў Будзынскі.

— Я малюю толькі ад трох гадоў і штораз больш часу адводжу гэтаму зацікаўленню. У мінулым годзе прынёс я свае карціны на конкурс першы раз. Сёлета ўдалося ўжо дабіцца поспеху. Малюю тое, што мяне цікавіць — вясковыя краявіды, нацюрморт, людзей. Карыстаюся алейнай і акрыльнай тэхнікамі. Многа далі мне заняткі па жывапісе, якія ў музеі вядзе Данель Грамацкі. Там я падцягнуўся з тэхнікай і многаму навучыўся. Без адукацыі складана зрабіць прагрэс, — гаварыў лаўрэат першага месца па жывапісе Міраслаў Хіліманюк.

Разам з ім раўнапраўнае першае месца заняў Станіслаў Паскробка, які прынёс на конкурс карціны з абстрактнымі тэмамі.

— Я вельмі рады, што Міраслаў Хіліманюк, які ходзіць на мае заняткі, зрабіў так аграмадны прагрэс і адразу заняў першае месца. Падабаюцца мне таксама іншыя працы на выстаўцы, сярод якіх цікавая разьба, — заявіў гайнаўскі жывапісец Данель Грамацкі, які ў белмузеі вучыць аматараў жывапісу.

— У мінулым годзе Міраслаў Хіліманюк запрэзентаваў дзве невялікія працы і праз год дабіўся так вялікага поспеху. Мы цяпер былі пад вельмі вялікім уражаннем яго карцін, на якіх імпрэсія пераходзіць у рэалізм. Станіслаў Паскробка малюе інакш, паказвае свае задумы ў свеце абстрактнасці, карыстаючыся жывымі колерамі. Ён таксама зрабіў вялікі прагрэс, — аналізаваў мастацкія работы старшыня журы Збігнеў Будзынскі. Звярнуў ён таксама ўвагу на рысункі алоўкам Януша Кулешы, з цікавым святлом, за якія атрымаў першую ўзнагароду ў сваёй намінацыі. Добры з яго псіхолаг, бо ўмела паказвае на сваіх работах характары людзей. На высокім тэхнічным узроўні выканаў тушшу рысункі Юры Жукоўскі, які на гайнаўскім конкурсе тройчы быў лаўрэатам першага месца і раз заняў другое месца. Сёлета заняў ён другое месца за цікавыя краявіды з прыродай.

— Я люблю рысаваць. Многа маіх прац разыходзіцца праз пасрэдніцтва знаёмых. Добра ацэньваю конкурс непрафесійнага мастацтва, бо тут ствараецца магчымасць параўнаць свае ўмеласці і пазнаёміцца з іншымі творцамі, а таксама паразмаўляць аб мастацтве, — сказаў аўтар вельмі прыгожых рысункаў Юры Жукоўскі.

Найбольш асоб з ліку непрафесійных мастакоў Гайнаўшчыны займаецца жывапісам і таму многа жывапісцаў прыступае да гайнаўскага агляду. Другое месца сярод жывапісцаў заняў Славамір Рыбак, які перамагаў раней. Сёлета запрэзентаваў ён цікавыя карціны з прыроднымі матывамі. Пастаяннымі ўдзельнікамі конкурсу з'яўляюцца Мікола Януўскі са Старога Беразова і Дыяна Астапюк-Янчук з Навасадаў, карціны якіх добра вядомыя не толькі жыхарам Гайнаўшчыны. Абое яны занялі трэцяе раўнапраўнае месца.

— Цешыць нас, што Мікола Яноўскі хоча пачуць крытычныя заўвагі на тэму сваіх карцін. Калі мы рабілі яму заўвагі, спадар Яноўскі браў іх да сэрца і падцягнуўся ў жывапісным варштаце працы, — сказаў мастак Збігнеў Будзынскі.

Аўтарам, якія атрымалі вылучэнні або дыпломы за ўдзел у конкурсе, разам са статуэмі конкурсу ўручылі іх бурмістр Ежы Сірак і дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч. Узнагароды сярод творцаў-інвалідаў атрымалі Януш Лісевіч — за інтарсію з зубром і Яўген Вішнеўскі — за барэльеф, таксама з зубром. Удзел у гайнаўскім конкурсе асоб з абмежаваннямі гэта вельмі добрая нагода паказаць наваколлю іх багаты ўнутраны свет.

Штогод да конкурсу прыступаюць разьбяры і так было сёлета. Першыя месцы ў гэтай намінацыі занялі Мікола Ягадніцкі і Сяргей Жэдзь, якія прадставілі разьбу з рэлігійнымі матывамі.

— Я займаюся разьбой з 1970 года. Выканаў ужо пад дзвесце прац, дабіўся поспеху на агульнапольскім конкурсе, восьмы раз прыступаю да гайнаўскага конкурсу і першы раз дабіўся такой вялікай перамогі. У мінулым годзе паказваў змаганне пад Грунвальдам, а цяпер выканаў постаці, звязаныя з хрысціянствам, бо цікавяць мяне рэлігійныя матывы, — сказаў наш разьбяр Мікола Ягадніцкі.

— Мы асаблівую ўвагу звярнулі на немаляваныя працы спадара Ягадніцкага, які вельмі ўмела выкарыстаў структуру драўніны для разьбы. У Сяргея Жэдзя сфармаваны ўжо варштат працы. На яго работах відаць свой клімат і сваю душу, — заявіў старшыня журы Збігнеў Будзынскі.

Славутымі разьбярамі на Гайнаўшчыне з'яўляюцца Мікола Корх з Кархоў (афіцыйная назва Краськаўшчына) і Міхал Коц з Гайнаўкі — лаўрэаты ранейшых выпускаў гайнаўскага конкурсу, якія сёлета занялі раўнапраўныя другія месцы. Мікола Корх найахвотней займаецца апрацоўкай каранёў, дзе менш трэба працаваць з долатам. Таксама выконвае постаці з традыцыйнай драўніны. На Гайнаўшчыне ён вядомы як аўтар і стваральнік помнікаў, а яго барэльеф, прысвечаны гадавіне грознага пажару лесу знаходзіцца побач Чахоў-Арлянскіх. У гэтым годзе Мікола Корх выканаў цікавыя постаці з душой — «Бабулю з унукам» і «Старэчу». Разьба Міхала Коца ў сваю чаргу гэта перш за ўсё постаці, прадстаўнікі розных прафесій. Міхал Коц запрэзентаваў цікавую працу «Здымі ланцуг» з сабакамі на прывязі. Гэтая разьба выклікала асаблівае зацікаўленне з-за нестандартнай задумы. Цікавыя постаці ў драўніне паказалі таксама Мечыслаў Дудзін і Ярaслаў Міхальчук, якія занялі трэція месцы. Усе разьбяры, што ўдзельнічаюць у гайнаўскім конкурсе, выконваюць свае работы на прыстойным тэхнічным узроўні.

— У гэтым годзе да конкурсу прыступіла крыху менш асоб, чым было ў мінулых гадах, — сказала Зінаіда Якуць, адказная ў ГДК разам з Аннай Тарасюк за арганізацыю мастацкага конкурсу, — але журы лічыць, што ўзровень прэзентаванага мастацтва сёлета вышэйшы, чым быў у мінулых гадах.

Мае суразмоўцы з Гайнаўкі звярталі ўвагу на працы з матывамі Белавежскай пушчы і наваколля. Побач мясцовых краявідаў на мастацкіх работах можна ўбачыць пейзажы з-па-за Гайнаўшчыны, нацюрморт, партрэты, кветкі, абстрактныя матывы.

— Варта было б адчыніць пастаянную галерэю ў Гайнаўцы, якая з'яўляецца брамай у Белавежскую пушчу. Сюды прыязджае многа турыстаў з Польшчы і замежжа. Непрафесійныя творцы і прафесійныя мастакі маглі б на месцы круглы год прадаваць карціны, разьбу і іншыя мастацкія работы, — заявілі мае суразмоўцы.




Першае месца ў катэгорыі прозы



Уршуля ШУБЗДА

# Легенда з Камяніцы

У часы, калі ўсё яшчэ мела свой лад і парадак, калі сонца ўставала над Навадворскай пушчай, а заходзіла на даху хаты Віктара з Купліска, жыхары Камяніцы вялі сваю спакойную, сялянскую жытку. На некалькі дзесяткаў метраў ад вёскі распасціралася вялікая непрацёртая пушча. З яе багацця людзі чэрпалі ад пачаткаў існавання ў гэтым куточку зямлі. А сама пачыналася цёплая восень. Палі, з якіх ужо ўсё ўбралі, павольна набіралі цёмна-карычневых колераў. Бабінае лета зіхацела ў праменнях бледнага ў гэтую пару года сонца. Такі краявід спрыяе роздумам і думкам, якія амаль усе зводзіліся да пушчы. Глянуўшы на яе, людзі не маглі забыць беднага Толіка, які, выйшаўшы ліпеньскім днём, да сёння не вярнуўся дахаты.

Набліжаўся час вячэры, а гэта ніколі не здаралася, каб хлопцы не вярнуліся да сёмай гадзіны з пушчы, у якой выраблялі дзёгаць. Вячэра была смачнай як мала калі. У чыгунным гаршку Лёдзя наварыла маладой бульбы, якая ўжо нарасла ў агародчыку. Калі Віталь увайшоў у хату, на стале ўжо стаялі міскі поўныя смачнай стравы, з якой падымалася густая параўіна. Не паспеў добра пад'есці, калі з падворка далося пачуць крыкі: „Віталь, Віталь!”. Аднак Віталь або не чуў, або не хацеў пачуць голасу, які мог бы перашкодзіць яму павячэраць. Лыжкай узяў крыху бульбы, абмакваючы ў кіслае малако. У гэты момант у хату ўвалілася старая Шчэрбіха. „Што ты, аглух!? Дзе наш Толік?” — спыталася з парога. Віталь, не маючы ахвоты на даўжэйшую гутарку, адказаў, што застаўся ў лесе. Паглынуўшы чарговую лыжку бульбы з кіслым малаком дадаў, што застаўся ён з дзяўчынай. Шчэрбіху разззлавала гэтая навіна. „Якая дзяўчына валочыцца ў такую пару па лесе?!” — злосна адгукнула старая суседка. Віталь, пад'еўшы, устаў ад стала: „Не сумуйце, Шчэрбіха, прыгожая была, няма такой у вёсцы ні ў Купліску, ні ў Хвашчэве”. Віталь, схапіўшы шапку, выйшаў на падворак. Шчэрбіха выляцела за ім: „Калі яна такая прыгожая, чаму сам не застаўся?!” Але Віталь ужо прапаў за гумном.

Мала хто ведаў, што Віталь, якому было пад пяцьдзесят гадоў, ужо даўно адмовіўся ад усіх пакус, якія магла даць яму дзяўчына ўзамен за даўгавечнасць. Хто яму падказаў гэтакі спосаб на тое, каб адкласці смерць — невядома. Бясспрэчным фактам аднак з'яўляецца тое, што Віталь дажыў ста гадоў.

Шчэрбіха паправіла хустку і пайшла да сябе. Ідучы збітай жвіроўкай праз вёску, падумала, што Толік, магчыма, ужо сядзіць у хаце і чакае, разззлаваны, што яшчэ няма вячэры на стале. Шчэрбіха, суцешана такой перспектывай, падняла крыху доўгую спадніцу, якая перашкаджала бегчы. Дапаўшы да дзвярэй, якія былі закрытыя на ключ, зразумела, што няма нікога ў хаце, а ключ, якога месца ведалі толькі яна і Толік, спакойна ляжаў паміж бэлькамі хаты. Шчэрбіха закруцілася, перахрысцілася некалькі разоў, паглядзела на сонца, якое ўжо амаль хавалася за хату Віктара з Купліска і зразумела, што яе сын адзін застаўся ў пушчы. У пушчы, якая днём так многа давала для людзей, якая з'яўлялася дабрадзействам. Ноччу пушча зусім змяняла аблічча. Шчэрбіха пабегла на загуменне. Згэтуль даволі было крыкнуць уголас, а рэха несла словы па цэлай Навадворскай пушчы. Аднак Шчэрбіха гэтага не любіла. „А хто знае, ці няма ў гэтым нейкіх чартоўскіх штучак?” — падумала. Яшчэ больш разззлаваная вярнулася на вуліцу і пачала плакаць і заклікаць людзей, каб ратавалі яе сына ад русалчыных падманаў.

Толіка Шчэрбу не знайшлі, хаця жыхары Камяніцы яшчэ ў той вечар пайшлі ў пушчу шукаць маладога хлопца. Ніхто ўжо не верыў у тое, што Толік знойдзецца. Людзі гаварылі, што з гэтай пары пушча змянілася. У бязветраны восеньскі дзень маўчала як заклятая. Не было чуваць ніводнай жывёлы, ні трэпету лісця, толькі роўны стукат сякеры нёсся па ўсёй ваколіцы. Як быццам уся пушча разам з надыходам восені памірала, ствараючы месца для народзінаў ліха, якое пачынала дзейнічаць на балотах векавога лесу.

Янка Казёл да Хвашчэва аддаў дачку за хлопца, які не быў багаты на той час, але меў атрымаць па сваім дзядзьку яшчэ дзве моргі зямлі. Апрача таго любіў Ксенію і шанаваў яе. Нарадзіўся ім сын і якраз таму Янка Казёл з жонкай выбраліся на хрэсьбіны ў Хвашчэва. Пасля доўгіх восеньскіх дажджоў дарога праз пушчу была амаль непраезджая для людзей, што добра не ведалі гэтых балот. Янка Казёл не баяўся дарогі. Штодзень бываў у пушчы. А то па дрэва, а то па дзёгаць. Аднак заўсёды стараўся вярнуцца дахаты перад змрокам. Янка Казёл з жонкай крыху засядзеліся ў дачкі на хрэсьбінах і выехалі ад яе ўжо пасля дзевятай гадзіны вечара. А ў гэтую пару года ўжо было цёмна, аднак стары Казёл, напоены гарэлкай з хрэсьбін, не баяўся нават і таго. Жвава ўзяў лейцы ў рукі і пагнаўся ў напрамку пушчы. Ужо набліжалася поўнач, калі стары Казёл убачыў нейкую постаць на дарозе. Незнаёмы прывітаўся з Казлом і запрапанаваў ехаць іншай дарогай чым заўсёды. „Калі тут амаль крыніца!” — адказаў здзіўлены Казёл. „Дзе! Па костачкі вады ніколі няма!” — гэтае сказаўшы, незнаёмы чалавек пайшоў дарогай, якой прапанаваў ехаць падарожнікам. Казёл, паглядзеўшы, што нават боты дзіўнага чалавека не гразнуць у балоце — значыць, сухая дарога, завярнуўшы каня, пусціўся за незнаёмцам. Не пад'ехаўшы і ста метраў, колы воза запаліся ў балота. Конь стагнаў і не мог паварушыцца дапераду нават на крок. Стары Казёл праклінаў незнаёмага, злез з воза і, хапіўшы за заднюю ручку, пачаў пхаць дапераду. У моцным возе, які зрабіў яшчэ яго бацька, штосьці трэснула, а стары Казёл упаў у балота. Выламалася ручка. У гэты момант стары Казёл не вытрымаў. Устаў з балота, выцер рукавом твар і пачаў уголас праклінаць незнаёмага, махаючы ручкай. Хутка замоўк, пачуўшы, што рэха не нясе так як заўсёды слоў, толькі нялюдскі смех.

Так было заўсёды, калі хтосьці не паспеў вярнуцца з пушчы перад дванаццатай гадзінай ночы. Нейкае ліха мусіла на чалавека спасці. Каго гэта сустрэла, той доўга памятаў смех, які ўнутры перацінаў чалавека.

Людзі казалі, што, мабыць, Толікавая душа блукае па балотах, шукаючы дапамогі. А там, дзе згублена душа, там і чэрці выпраўляюць свае гарцы. Такім чынам сам солтыс Камяніцы занёс да касцёла ў Янаве на імшу за маладога Толіка. Ксёндз нават асвяціў крыж, які людзі павесілі на ростані дарог у пушчы. Якраз тое месца было праклятым і там чэрці найчасцей мучылі людзей. Крыж прыбілі да магутнага дуба, што стаіць тут ужо некалькі стагоддзяў. Ад гэтай пары не было чуваць, каб хтосьці спазнаў нейкую бяду ў пушчы.

У той жа час у Янаве жыло многа яўрэяў. Людзі з Камяніцы не заўсёды мелі час і магчымасць паехаць у Янава ці Сідру на рынак па пакупкі. Яўрэі ведалі аб гэтым і часта самі прыязджалі ці прыходзілі пяшком на вёску прадаваць прылады, без якіх цяжка было абысціся. Яўрэі з Янава куплялі таксама многа драўніны з Навадворскай пушчы. А кусочкам пушчы, якая ляжала пры Камяніцы, валодаў нейкі Хвяцько. Нягледзячы на гісторыю старога дуба, на якім вісеў крыж, яго магутнасць і красу, Хвяцько загадаў зрэзаць яго. Быў упэўнены ў тым, што яўрэі заплацяць яму за дуб шмат грошай. Хвяцько наняў людзей, якія некалькі дзён рэзалі дуб. Жыхары Камяніцы не мелі магчымасці не дапусціць да гэтага злачынства. Хадзілі і прыглядаліся колькі ўжо зрэзалі і турбаваліся, што ўсё кепскае вернецца ў пушчу.

У гэты дзень яўрэй як штотыдзень прыехаў на гандаль у Камяніцу. Яшчэ не паспеў уехаць у вёску, а ўжо можна было пачуць яго крыкі: „Анучы з-пад кучы, шматкі з-пад лаўкі! Давайце тутай!”. Людзі выходзілі натоўпам. Любілі сустрэчы з яўрэем не толькі таму, што меў многа цікавых навіосенькіх рэчаў, але перш за ўсё ведаў, што чуваць у ваколіцы. І так ля воза яўрэя паставалі людзі, аглядалі рэчы, якіх шмат ляжала на возе. У момант, калі Віталь думаў ці купіць новую сякеру, таму што старая зусім ступілася, з пушчы пачулася жахлівая грымата. Некаторыя з месца пабеглі дарогай у пушчу, каб даведацца што здарылася. Яўрэй, нягледзячы на пакупнікоў, схапіў за лейцы і пагнаўся ў пушчу. Людзі ўжо здалёк ведалі, што зрэзалі дуб. Не было відаць кароны, якая распасціралася па-над іншымі дрэвамі. На ростані дарог асобы, якія працавалі пры выразцы дрэў, пападалі на калені. З малітвай на вуснах бралі ў рукі пілавінне, якое толькі засталося ад вялізнага дуба. Усе плакалі, падымалі рукі ў неба, каб Бог прабачыў ім іхнюю прагнасць. „Што вы зрабілі? — спытаўся стары яўрэй выходзячы з воза. — То ж вы зруйнавалі хату вашага Бога!”

Усе зразумелі, што дуб упаў на дарогу, але ад яго засталіся толькі гэтыя трэскі і крыж. Да сёння на старой сасне ля месца, дзе стаяў дуб, вісіць цудоўна выратаваны крыж, які нагадвае часы русалак і чартоўскіх гарцаў.

Людзі, якія яшчэ памятаюць тыя часы, задумваюцца, чаму прапалі ўсе прывіды, мроі і чэрці. Задумваюцца: „Ці гэта ўсё існавала?”. Таму што яны і даўней былі больш багабоязнымі і даставалі многа знакаў пра тое, што з'яўляецца дабром, а што ліхам.

Вылучэнне ў катэгорыі паэзіі



Багдан ДУДКО

## найкарацейшы верш пра каханне

верш
я таксама нічога не ведаю
хаця
ведаю
кахаю цябе
няхай ужо так застанецца
на векі вякоў
амін

* * *

я мог бы табе напісаць раман
але
часу замала
жыццё закароткае
таму пішу верш
аб тым, што
ты найпрыгажэйшая ў свеце
раман напішу табе пазней
калі ўжо ўвайду
на нябесныя паляны
там часу ўжо шмат

* * *

вёска забітая наглуха
дошкамі перагнілымі ад тугі
за мінулым
на палях ужо толькі кветкі
і птушкі
лугі зусім ужо
не тыя самыя
высахлі балоты
і я ўсыхаю
выглядаючы на дарозе
тваёй машыны
бо ты заўжды прывозіш сюды
радасць

* * *

чацвёртая раніцай
чацвёртая кава
раптам з акна
як ясенін
выскоквае алень
тысячы дзікіх гусей нада мною
пустэча ўва мне
прыгожа тут
толькі як можна жыць у такім месцы
аднаму
крычу да гусей
каханыя, застаньцеся
не ўцякайце
прынамсі вы тут будзьце
а яны нічога, толькі ляцяць
і крычаць
што наколькі я ведаю пра гэта
каб адсюль уцякаў
ды я застануся
тут маё месца
хаця час ад часу хацеў бы
каб было інакай

* * *

я час ад часу хацеў бы быць як бусел
сябра падумаў, што я п'яны
чалавек мусіць мець штосьці, што называецца
індывідуальнасцю
а бусел
бусел павінен мець сваю бусловасць?
хто яго там ведае
надарылася нагода
я на даху
бачу дамы, падворкі
цяпер або ніколі
затрапятаў
лячу
сам сабе не веру, але лячу
сапраўды лячу
сябра падумаў, што ён п'яны
чалавек гэта чалавек...

# Алесь Белакоз выдаў кнігу пра свой музей

**У Мінску ў выдавецтве „Кнігазбор” выйшла з друку кніга „Музей у Гудзевічах”. Яе напісаў заслужаны работнік культуры Беларусі Алесь Мікалаевіч Белакоз — чалавек, якога ў Беларусі ведаюць усе. Не бывае дня, каб людзі не тэлефанавалі яму альбо не прыехалі да яго ў Гудзевічы, што на Мастоўшчыне, каб асабіста пабачыцца і пагутарыць з ім. Гэта кніга не толькі пра лёс дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея, створанага на базе школьнага літаратурна-краязнаўчага музея ў Гудзевічах. Гэта кніга пра тыя падзеі, якія адбываліся ў вёсцы на працягу некалькіх стагоддзяў, пра тых людзей, якія дапамагалі і стварылі, разам з Алесем Мікалаевічам і вучнямі, гэты музей. А таксама пра тых, хто шкодзіў музею, хто не хацеў, каб ён быў, існаваў, дзейнічаў.**



Алесь Мікалаевіч Белакоз





Школьны музей у Гудзевічах прыняў сваіх першых наведвальнікаў 2 лютага 1968 года. Яго адкрыццё было прымеркавана да 130-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Першыя экспанаты датуюцца 1965 годам. Менавіта яшчэ тады дзеці пад кіраўніцтвам Алеся Мікалаевіча Белакоза пачалі пісаць лісты пісьменнікам, мастакам, дзеячам навукі і культуры з просьбай даслаць выказванне пра беларускую мову, чарнавік ці рукапіс свайго твора, кнігу з аўтографам. Калі назбіралася многа матэрыялаў — і быў адчынены школьны літаратурна-краязнаўчы музей. Спачатку музей размяшчаўся толькі ў адным пакойчыку, а калі ў 1981 годзе пабудавалі новую двухпавярховую школу, тады пад музей аддалі цэлы будынак старой школы, які размясціў чатыры экспазіцыйныя залы і калідор. Яны былі адчынены ў 1984 годзе.

Яшчэ ў 1980 годзе мясцовы калгас дапамог перавезці з вёскі Семярэнкі да музея хатку, пабудаваную ў канцы XVIII стагоддзя. Першая экскурсія ў ёй была праведзена 6 студзеня 1981 года. А пазней калгас дапамог перавезці да хаткі свіронак. У 1990 годзе загадам Гродзенскага ўпраўлення культуры № 10 ад 12 лютага 1990 года на аснове рашэння Мастоўскага раённага Савета народных дэпутатаў № 269 ад 17 студзеня 1990 года музей у Гудзевічах стаў дзяржаўным. Тады ж пад музей быў перададзены другі школьны будынак, дзе ў гэты ж год была адчынена зала „Народная медыцына”, праект якой бясплатна зрабіў мастак Алесь Ступень. У гэтым жа будынку ў 1990 годзе былі аформлены дзве залы „Лёну і народнага ткацтва”, дзе сабраны ўсе прылады, якія патрэбны для таго, каб лён ці воўна ператварыліся ў тканіну, паказаны ўсе ўзоры тканін, якія выраблялiся ў тамтэйшай мясцовасці, а таксама ўнікальная калекцыя падвойных дываноў. Потым адчыніліся экспазіцыйныя залы. А ў 1997 годзе была зроблена зала „Гісторыя Гудзевіч у дакументах і фотаздымках” і г.д.

Так паціху музей пашыраўся і жыў. Хаця ў стварэнні яго, у пошуках матэрыялаў для яго існавала нямала перашкод. Але іх змог адолець няўрымслівы і апантаны справай Алесь Белакоз. Чалавек-легенда, якім мы павінны заўсёды ганарыцца. І мы ганарымся ім, ім — народным настаўнікам, збіральнікам, музейнікам, краязнаўцам, літаратарам, вялікім беларусам XX — пачатку XXI стагоддзяў. Алесь Мікалаевіч — шчыры і мужны беларус, патрыёт, чалавек, для якога Беларусь — сэнс усяго жыцця.

Кніга „Музей у Гудзевічах” — доказ таго, як няпроста і нялёгка ствараліся падобныя беларускія музеі. Колькі папахадзіў, паабіваў парогаў Алесь Мікалаевіч дзеля свайго музея. Яму запісвалі вымовы, наладжвалі ў школе праверкі, абзывалі нацыяналістам, цягалі ў КДБ, а ён рабіў сваю справу, рабіў упарта і натхнёна, спакойна і... заўсёды. Не ўсё задуманае ім спраўдзілася, адбылося, захавалася для нашчадкаў. Але ён вытрымаў, перажыў, адолеў.

Гэтая кніга — жменька праўдзівых успамінаў мудрага настаўніка з Гудзевічаў. Каб мы жылі, каб жыла ў свеце Беларусь, каб жыла наша мова, каб захавалася наша багатая спадчына. Верыцца, што кніга Алеся Белакоза прачытаецца з цікавасцю. Яна навучыць многіх з нас не спыняцца перад цяжкасцямі, перад сваімі марамі і задумкамі, не здавацца перад тымі, хто хоча знішчыць нашу беларускасць.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# http://belarus.dn.ua

Ці можна лічыць беларусам чалавека, які грэбліва і з пагардай ставіцца да беларускай мовы? Зважаючы на моўную сітуацыю ў Беларусі, можна з упэўненасцю сцвярджаць — так, можна. У Беларусі, як дарэчы і ў Польшчы, многія беларусы не лічаць патрэбным ані вывучаць, ані папулярызаваць родную мову. Такое стаўленне народа да свайго галоўнага адрознення ад іншых выклікае, канешне ж, непаразуменне, але каму якая справа — размаўляюць беларусы на сваёй мове ці не. Але калі мова — гэта не галоўнае для народа, то паўстае пытанне: а што ж галоўнае? Што ж яшчэ можа трывала яднаць розных людзей, якія жывуць на адной тэрыторыі і абазначаюць сябе як прадстаўнікоў аднаго этнасу?

У сучасным свеце далёка не ўсё так адназначна і зразумела. Тут, акрамя чорнага і белага, ёсць мноства іншых колераў, якіх простым вокам не відаць. Адным з прыкладаў такога на першы погляд з'яўляецца нонсэнс, калі для нацыянальнай дыяспары мова з'яўляецца нечым другасным, можна назваць беларускую суполку на ўсходзе Украіны, у Данецку, а менавіта «Культурна-асветніцкае таварыства беларусаў „Нёман”».

Каб пазнаёміцца з дзейнасцю таварыства, варта зайсці на сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://belarus.dn.ua**. Зроблены сайт даволі добра, мае прываблівы выгляд, але не хапае ў ім нечага важнага. А важнае гэта якраз — мова, дбанне пра захаванне якой кіраўніцтва арганізацыі дэкларуе.

Праўда, уверсе выяўлення змешчаны лозунг на трох мовах — беларускай, рускай і ўкраінскай, сугучны камуністычнаму „Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!”, дзе слова „пралетарыі” заменена словам „беларусы”. Гэта, бадай, адзінае беларускамоўнае выказванне на сайце беларускай дыяспары ў Данецку. Усё астатняе падаецца нават і не па-ўкраінску — дзяржаўнай мове гэтай краіны, а па-руску.

Згодна з інфармацыяй, пададзенай на галоўнай старонцы сайта, асноўнымі мэтамі дзейнасці суполкі з'яўляецца „сохранение и популяризация истории, традиций, культуры и языка белорусского народа, укрепление дружбы и взаимопонимания между народами разных национальностей региона, содействие развитию экономических, научных и культурных связей между Донетчиной и Республикой Беларусь”. Але, калі адчыніш іншыя старонкі, то збольшага гістарычная інфармацыя тычыцца падзей апошняй сусветнай вайны, дзе змагаліся і гінулі не толькі беларусы. Традыцыі зведзены да абыходу агульнахрысціянскіх святаў, якія належаць не толькі беларусам.

Праўда, ёсць інфармацыя, датычная беларускай мовы. „В областной газете «Донеччина» регулярно выходит страница на белорусском языке «Неман», где размещаются новости о Республике Беларусь, информация о деятельности общества, в рубрике «Домашняя школа» печатается материал по изучению белорусского языка”, — распавядаецца на галоўнай старонцы. Праўда, застаецца абсалютна незразумелым, чаму пры гэтых намаганнях на сайце арганізацыі няма беларускамоўнай версіі. Адказ напрошваецца сам па сабе — не патрэбная яна там. Бо калі зважаць на змест шэрагу артыкулаў сайта, якія па сутнасці з'яўляюцца перапевамі лукашэнкаўскай дзяржаўнай прапаганды, закрадваецца падазрэнне, што беларуская культура, гісторыя і мова — гэта, насамрэч, не тое, дзеля чаго створаны „Нёман”. Галоўнае іншае — прасоўванне эканамічных інтарэсаў цяперашняга кіраўніцтва ў Мінску. Гэта, канешне, не самае горшае, але яўна не беларускае.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Скарбы Беларусі

## Плошча-2010

Задума серыі нарысаў „Скарбы Беларусі” пра нашы нацыянальныя каштоўнасці паўстала неўзабаве пасля падзей 19 снежня 2010 года. Неяк тады „на аголеных нервах” усё адчувалася больш абвострана і выразна. Праз два каляндарныя гады прыйшла пара завяршыць цыкл гэтых артыкулаў. За два гады з'явіліся і асобнае асэнсаванне той Плошчы, якая была ў найноўшай гісторыі. Два гады па мерках эпохі — тэрмін мізэрны, але нават ён дазваляе зрабіць пэўныя высновы.

Гэтая Плошча была ў нашым жыцці — для адных з кроўю, для другіх — з турмой, для трэціх — з маральным надломам, для чацвёртых — з пунктам адліку для эміграцыі. Для пэўных асоб — з поўным наборам пералічанага. А для некаторых — тых, што дагэтуль у зняволенні, яна яшчэ не скончылася. Для іх гэта пытанне нават фізічнага жыцця.

У нас была гэтая Плошча. З нашага боку былі на ёй дзесяткі тысяч мірных людзей, а з іхнага — узброеная ваенная хунта. З нашага боку былі там справядлівыя законныя патрабаванні, святая праўда, нашая бел-чырвона-белая сімволіка, а з іхнага — садысты ў форме „касманаўтаў”, правакацыі і хлусня, чорная справа задушэння свабоды. З нашага боку на Плошчы адкрыта былі лідары нацыі, а з іхнага — той, што заўсёды прыкрываецца імем народа, што схаваўся за мурамі і міліцэйска-вайсковымі шыхтамі. Цяпер і я думаю, што калі б не было фізічнага здушэння мірнай акцыі, то назаўтра на вуліцах было б у два разы людзей больш і магла б прыйсці натуральная змена ўлады.

Плошчу-2010 варта і трэба параўноўваць з Плошчай-2006, калі такая ж колькасць людзей капітулявала сама па сабе і разышлася. Плошча-2010 была брутальна разагнаная. Людзей было так шмат, што многія з нас нават не бачылі ўсёй жорсткасці таго біцця і разгону. Плошчу-2006 складалі пераважна людзі сярэдняга і сталага веку, у снежні 2010 года на заснежаныя вуліцы і праспект беларускай сталіцы выйшлі найперш маладыя людзі, якія выразна там дамінавалі. І гэта ці не найбольшы аптымізм таго халоднага вечара, які мог стаць паваротным у вызваленні краіны ад антынацыянальнага рэжыму, але не стаў такім. Але затое стаў вызначальным пунктам адліку фармавання агульнабеларускай салідарнасці, якая стала кшталтавацца намнога хутчэй.

На ўгодкі таго жорсткага разгону інтэрнэт поўніцца самымі рознымі рэфлексіямі, эмоцыямі і ацэнкамі лёсаноснай для многіх падзеі сучаснай Беларусі. Некаторыя заклікаюць хутчэй пакінуць „галашэнне Яраслаўны” і скарэй планаваць далейшую дзейнасць. Іншыя даводзяць, што падзеі „крывавай нядзелі” сталіся нашай сапраўднай маральнай перамогай. Як казаў вялікі Махатма Гандзі, „спачатку яны цябе не заўважаюць, потым смяюцца з цябе, потым змагаюцца з табой. А пасля ты перамагаеш”.

Як па мне, то не бачу ніякай супярэчнасці паміж рознымі рэакцыямі ўдзельнікаў плошчы, бо планаваць будучае нельга без асэнсавання таго, што было. А кожныя ўгодкі той Плошчы трэба адзначаць як дзень нашай згуртаванасці, праўды, салідарнасці.

Пра Плошчу-2010 напісаны ўжо шэраг мастацкіх і дакументальных кніг, процьма аналітычных артыкулаў. Пройдзе больш працяглы час і дата 19 снежня 2010 года стане ў адным шэрагу з 25 Сакавіка, з 27 ліпеня, стане як вяха ў змаганні за нашу дзяржаўнасць, волю, праўду, справядлівасць, адвечнае права „людзьмі звацца”, стане асобнай гістарычнай каштоўнасцю нашай краіны. А на Плошчы імя Каліноўскага будзе стаяць Стэла Годнасці.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Трывожны час

З неспакоемназіраю за працэсам перамен на палітычнай сцэне. Не сціхаючая польска-польская вайна на словы паміж Правам і справядлівасцю ды Грамадзянскай платформай, эканамічны крызіс у сусветным маштабе не напаўняюць аптымізмам. Найбольш хвалююць мяне гаспадарчыя вынікі як айчынных, так і замежных прадпрыемстваў. Прагназаваны паказчык 1,8% ВУП не толькі не апраўдаўся, але панізіўся ў апошнім квартале да 1,3% ВУП. Павялічваецца беспрацоўе. У апошнім квартале цякучага года сягала яжо ўжо 13 працэнтаў. Моладзь падаецца ў эміграцыю ў пошуках працы. Ды і кіруючыя колы не напамінаюць ужо аб „зялёным востраве". Затым стаўлю пытанне: „Што нас чакае ў наступаючым новым годзе?". Паспрабую разважыць гэта на прыкладзе ўласнага панадворка.

Грамадскасць Чаромхаўскай гміны, як і суседняй Гайнаўкі ці Бельска-Падляшскага, у значнай ступені складаюць пенсіянеры-чыгуначнікі. Многія карыстаюцца спецыялістычнай дапамогай беластоцкіх лекараў. Да гэтага года кожны з іх карыстаўся 80-працэнтнымі ільготамі пры пакупцы праязных білетаў. Закон гэты адмяняецца з канцом снежня цякучага года. Акцыйная суполка „Рэгіянальныя пасажырскія перавозы" не выканала абавязку ў працадаўцаў групы ПКП у больш шырокім маштабе адносна выкупу службовых правоў для пенсіянераў і іх сем'яў. Затым пенсіянеры-чыгуначнікі, карыстаючыся паслугамі „Рэгіянальных пасажырскіх перавозаў" пасля новага года вымушаны будуць купляць звычайны білет. Гэта адзіная чыгуначная суполка групы ПКП, якая не падпісала дамовы. Ці гэта не дыскрымінацыя грамадзян у прававой і дэмакратычнай дзяржаве? Вось, даражэнькія, як кіруючыя колы цэняць зараз заслужаных сеніёраў. Узбударажыла мяне таксама выступленне прафесара Лешка Бальцэровіча, які ў перадачы „Piaskiem po oczach" на тэлеканале TVN-24 канстатаваў: „**Nie należy się poddawać szantażowi organizacji związkowych, które występują w obronie pracownika i nabytych przywilejów socjalnych, gdyż to wpływa ujemnie na przebieg zamierzonych reform**". На думку прафесара, выдатнага эканаміста, коштам пенсіянераў-чыгуначнікаў трэба перададольваць эканамічную рэцэсію і апраўдоўваць халатнасць няўдачлівых перавозчыкаў. Ці ж не так?

Паспрабаваў я высветліць справу ў Заступніка грамадзянскіх правоў у Варшаве. Вось яго адказ: „**Od 1 stycznia 2012 r. uchylona została podstawa prawna, nakładająca na spółki Grupy PKP obowiązek wykupu tych świadczeń na zasadach określonych w układzie zbiorowym.** (...) W ocenie Rzecznika tego typu uprawnienia nie są objęte bezwzględną ochroną. Zgodnie z ukształtowanym orzecznictwem Trybunału Konstytucyjnego, zasada ochrony praw uprzednio nabytych nie ma charakteru bezwzględnego, co oznacza brak podstaw do twierdzenia, że raz nabytych praw nie można nigdy zmienić lub ograniczyć. Ochrona praw nawet słusznie nabytych nie ma więc charakteru absolutnego, gdyż może ona być zniesiona lub ograniczona o ile to ograniczenie było usprawiedliwione ważnymi racjami prawnymi, społecznymi czy ekonomicznymi. Dotyczy to w szczególności świadczeń o charakterze socjalnym, które mają swoje źródło w postanowieniach układu zbiorowego pracy".

Варта адзначыць, што новы закон быў кансультаваны з прафсаюзнымі чыгуначнымі арганізацыямі. Пры кансультацыях не ўдзельнічалі прадстаўнікі Галоўнага праўлення Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў. Затым гэтая група не мела свайго прадстаўніка ў час перагавораў. Сумным з'яўляецца факт, што гэтая арганізацыя і зараз не бярэ голасу, быццам вады ў рот набраўшы. Нездарма кажуць, што на нахіленае дрэва і козы скачуць. Бо гэта і праўда. Пра пенсіянераў-сеніёраў ды інвалідаў кіруючыя колы прыпомняць пэўна ў час выбараў, калі будуць дапамінаца, каб пры іх прозвішчы паставіць „крыжык". Варта тады прыпомніць яшчэ адну прыказку: „Як Бог Кубу, так Куба Богу".

**Уладзімір СІДАРУК**

# Сустрэча з „Цаглінкамі"

Дзень 27 лістапада 2012 г. надоўга запомніцца членам калектыву „Цаглінкі" і гасцям, якія прынялі ўдзел у сардэчным і шчырым спатканні ў вясковай святліцы ў Старым Ляўкове. У святочнай атмасферы перад запустамі спаткаліся культурна-асветныя працаўнікі Нараўчанскай гміны, у ліку якіх былі дырэктар Гміннага асяродка культуры Анна Стульгіс, кіраўнічка святліцы Галена Рэент і кіраўнічка бібліятэкі Аліна Барташук. Сустрэчу ўдастоіў віцэ-староста Гайнаўскага павета Андрэй Скепка.

Ад улад Нараўчанскай гміны — ад імя войта Мікалая Павільча і ад сябе асабіста — Анна Стульгіс сардэчна падзякавала самадзейнікам калектыву „Цаглінкі" за высокія дасягненні і поспехі ў галіне прамоцыі беларускай культуры і нашай Малой Айчны ў краіне і за мяжой. Сказала яна:

— Дваццаць пяць канцэртаў далі вы за 11 месяцаў гэтага года. Не кожнаму калектыву ўдаецца такое дасягнуць. Вас усюды чакаюць, вас заўсёды сардэчна вітаюць хлебам і соллю. Вы з гастроляў заўсёды вяртаецеся з паднятай галавой. Напрыклад, з конкурсу ў Быдгашчы вы вярнуліся з узнагародай Гран-пры.

Віцэ-староста павета ў сваім выступленні падкрэсліў, што „Цаглінкі" гэта ўзорны калектыў нашай меншасці, прамотары нашай спадчыны на Падляшшы, у краіне і за мяжой.

У сваім выступленні кіраўнічка калектыву Галена Барташук расказала пра будні калектыву, яго дасягненні і планы. З сумам была прынята інфармацыя, што „Цаглінкі" чамусьці не былі ўзяты пад увагу арганізатарамі паездкі ў Гродна 17 лістапада г.г. Ну што ж, і так бывае. Чужыя высока ацэньваюць калектыў, а свае гэтага не заўважаюць, калі выступае хворая зайздрасць па прычыне папулярнасці. „Цаглінкам", вядома, балюча становіцца на душы, калі іх ставяць на абочыну свае „мудрацы". Калі яны паразумнеюць, цяжка сказаць.

Віцэ-староста Андрэй Скепка сказаў:

— „Цаглінкі" гэта наш гонар. Вы далёка вядомыя ў Польшчы і за граніцай. Павятовыя і гмінныя ўлады аб вас помняць і будуць помніць, будуць стварадь вам умовы для вашай самадзейнасці, якая расслаўляе наша Падляшша.

Музычны кіраўнік калектыву Мікалай Мяжэнны расказаў пра рэпертуарныя планы калектыву. Затым пачалася дыскусія. Яе ўдзельнікі выказалі задаволенасць напрамкамі культурнаасветнай дзейнасці ў гміне. Сустрэча закончылася ўручэннем узнагарод для стараляўкоўскіх самадзейнікаў.

**Віктар БУРА**

# Адгаданка

## Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — яўрэйскую паговорку.

1. рошчына для самагонкі = 11 _ 12 _ 13 _ 14 _ 15 _;
2. рака на поўначы Албаніі = 24 _ 25 _ 17 _ 27 _;
3. Эдгар, французскі імпрэсіяніст (1834-1917) = 9 _ 26 _ 30 _ 31 _;
4. Станіслаў, польскі пісьменнік-фантаст (1921-2006) = 1 _ 2 _ 18 _;
5. ламачча = 7 _ 10 _ 19 _;
6. хлусня = 5 _ 6 _ 28 _ 29 _;
7. цёмная пара сутак = 20 _ 21 _ 16 _;
8. халодная колючая зброя з прамым доўгім клінком = 4 _ 3 _ 8 _ 22 _ 23 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | | | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | | | | 16 | 17 | 18 |
| | | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

### Адказ на адгаданку з 48 нумара

Балтыка, плач, касец, мат, высь, ёрш, сажалка, пачын, Ева, кацiроўка, пятніца, Абама, ял, дула, жнец.

Рашэнне: **Жывёла часта спатыкаецца, а чалавек памыляецца**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 30.12.2012 — 05.01.2013

**(22.03. — 20.04.)** У канцы года шанцы на дадатковыя грошы ці раскрутку бізнесу. Найцікавейшыя задумы прыйдуць у галаву ў „сільвестра". Мноства спраў, планаў. Адчуеш прызыў да неадкладнага дзеяння. Будзеш добра адчуваць сябе ў вялікай кампаніі.

**(21.04. — 21.05.)** Захочацца ў далёкія бакі, пашукаць скарбаў, прыгод, праверыць магчымасці. Захочацца закруціць нейкую шалёную авантуру. Усё ж трэба будзе вярнуцца да будняў. Але ж словамі важнымі ў тваёй кар'еры будуць „перабудова" і „рост". І будзе рамантыка!

**(22.05. — 22.06.)** Дойдзеш да вываду, што ў жыцці пара змяніць што-небудзь. Адчуеш незадавальненне з самога сябе; што цікавае, праца над сабою давядзе ў канцы года да поспехаў большых чым у іншых. Ад праблем з грашыма пазбавішся дзякуючы выкараненню ўласных кепскіх звычак. Адчуеш сябе свабодным.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш сацыяльна актыўным і кантактным. Прыйдзецца разбірацца ў сваіх асабістых праблемах, весці бясконцыя размовы з партнёрамі і блізкімі, шукаць справядлівасці; пытанні будуць пра грошы, інтым, маральнасць... Навагоднія дні складуць настолькі шмат двухсэнсоўных сітуацый, што будзеш разбірацца з імі да канца студзеня!

**(24.07. — 23.08.)** Перабудова ў шмат якіх сферах, перш за ўсё ў дзелавых інтарэсах. Схочацца палепшыць якасць жыцця, выгляд. Некаторыя Львы змогуць пазбыцца благіх звычак, стануць падтрымліваць фізічную форму, вернуцца да творчых занягкаў, пашукаюць інтэлектуальных кантактаў. Ды паступленні грошай у студзені могуць спазніцца.

**(24.08. — 23.09.)** У апошнія дні снежня будзеш адчуваць сябе слабейшым. Не апарся, не парэжся. А студзень будзе чарадзейскім месяцам. Чакаюць цябе любоўныя прыгоды, прыемныя перажыванні. Праўда, атруцяць крыху гэтыя светлыя хвіліны пытанні матэрыяльнага плану, ды ўсё ў сям'і і ў асабістым жыцці складзецца так добра, што гэтыя часовыя цяжкасці ўспрымеш без трагізму.

**(24.09. — 23.10.)** Упэўнена станеш на ногі. У студзені будзе ў цябе спакойна, без хвалявання. На працы крыху зацішна. Чакаеш нейкіх важных перамен; усё тое адбудзецца што мае быць. Цешся святам, кантактамі з блізкімі, цёплай атмасферай дома. А інтымная сфера будзе ў цябе (увесь год!) здзяйсняцца пры цвярозым разліку.

**(24.10. — 22.11.)** Можа паявіцца цікавая прафесійная прапанова (правер, хто стаіць за гэтым). У апошнія дні года можаш святкаваць нейкі поспех. Сытасць і задавальненне. Дублюй разлікі на паперы, не давярай электроніцы. Тэндэнцыі ва ўмацаванні дома і сям'і, кансалідацыя планаў на будучыню — на ўвесь год; перспектывы вельмі шырокія (магчымае набыццё ці добраўпарадкаванне жылля).

**(23.11. — 22.12.)** Фінансавыя турботы кончацца. Ды ў першыя дні студзеня адчуеш рэзкі недахоп сродкаў. У галаве паявіцца геніяльная ідэя, каб гэта змяніць; захавай халаднакроўе! Пазнаёмішся з людзьмі, якія памогуць табе ў высакародных дзеяннях. У 2013 г. прыйдзецца зрабіць табе важны выбар. Атрымаеш масу прываблівых магчымасцей палепшыць свой сацыяльны статус і матэрыяльнае становішча; любая давядзе да аглушальнага поспеху. Ды плата за гэта можа заключыцца ў значным абмежаванні асабістых свабод.

**(23.12. — 20.01.)** Да 30.12. маеш шанц завяваваць вялікі поспех, асабліва ў прафесіі. Развязжацца мех з прапановамі; нічога не праваронь. У 2013 г. будзе турбаваць цябе ўласнае ўзбагачэнне. Можаш гэта зрэалізаваць, прытым не заўжды зусім чыстым шляхам... У студзені пакуль толькі ўбачыш гэтыя магчымасці. Будзеш лавіць інфармацыю і хапаць ідэі на ляту.

**(21.01. — 19.02.)** Крыху нервовых сітуацый. Навагоднія дні правядзеш спакойна, без асаблівых спадзяванняў на галавакружныя перспектывы. Пасля ў паветры запахне скандалам. Не спяшайся ў пачуццях. У 2013 г. значна пашырыш сферу прафесійнага ўплыву, здзейсніш вялікае адкрыццё.

**(20.02. — 21.03.)** Спраўся з хатнімі непаладкамі ў снежні. Адчуеш унутранае імкненне да перамен, адраджэння, вяртання страчаных свабод. Вялікая прыхільнасць асоб другога полу. Казачны настрой! Год будзе практычным і прыземленым, а табе схочацца лятаць!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# За Кляшчэлямі (ч.2)

Тэкст і фота
Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

З Кляшчэль у Паграбы дарога пралягае цераз лес — ад Кляшчэль ён стары, а чым далей, тым маладзейшы. У Паграбах, дзе ад вуліцы адыходзіць дарога ў прыхадскі прысёлак Дашоў — Косную, тры крыжы; два жалезныя і адзін, пасярэдзіне, цэментны, з кароткім малітоўным надпісам. Інфармацыя пра фундатараў і магчымую дату яго пастаўлення прысакрэціў снег, а мне не хацелася таго сакрэту адгортваць.



Каля кіламетра ад Паграбоў — Жукі. Там таксама крыжы на расходных дарогах, таксама з малітвамі. Недалёка будынак пункту прыёму малака, на якога рампе вырасла немалая ўжо бярозка. Прыцягвае ўвагу сядзіба, ад якой астаўся адно сад з некалькіх старых яблынь. Далей, амаль на канцы вёскі з боку Пятроўшчыны, вясковая святліца. А за вёскай краявід з некалькімі пакаленнямі лесу, уваходзячымі на месца поля.

Падобнае можна сказаць і пра чарговую вёску — Пятроўшчыну, толькі там крыжоў больш, бо апрача тройкі вывадных у напрамку Кляшчэль стаіць стольکі ж пасярэдзіне вёскі, на перасячэнні дарог. Паміж Пятроўшчынай і Снежкамі — лес. І гэта не абы-які лес, але адмыслова аздоблены снежнымі гронкамі і далікатным жывічным пахам.

Са Снежкамі лёс згуляў невясёлую гісторыю. У сівую даўніну побач гэтай вёскі, там дзе цяпер могілкі, мабыць, стаяла царква. Дарэчы, царква была і ў недалёкай ад Пятроўшчыны Грузкай. Але так сталася, што цэнтр тамашняга прыхода канчаткова апынуўся ў Сасінах. А Снежкі мелі стаць праваднікам новай рэчаіснасці ў пасляваенны час. У 1952-54 гадах у Снежках была нават сядзіба гміны, пазней рэарганізаваная ў грамаду, якая перастала існаваць у 1975 годзе. Паралельна Снежкі мелі стаць і ўзорным цэнтрам калектыўнага гаспадарання — за вёскай быў узведзены комплекс калгасных збудаванняў; зараз яны пустуюць, а мо лепш сказаць, што пераўтвараюцца ў друз. Дарэчы — вёска Снежкі таксама згортваецца. Яшчэ пару гадоў таму працавала там крама; зараз мураваны будынак былой крамы пусты і абведзены сетачнай агароджай. Драўляны будынак, які калісь займалі гмінныя і грамадскія чыноўнікі, пусты, адно прырода стараецца яго неяк абтуліць сваёй раслiннасцю. У мураванай былой святліцы нехта жыве. За вёскай, на загуменні, даўно забыты пункт прыёму малака і гэтак жа забытае пажарнае дэпо. Па загуменнай дарозе ад першага снегу, які выпаў тыдзень раней, першы след праклаў я. А за дарогай — новенькая пасадка, цяпер прыкрытая снегам, а за ёю — старэйшыя пасадкі. Паветка аўтобуснага прыпынку, што ў канцы вёскі з боку гмінных Боцькаў, зарасла невялікім ляском.

Сасіны аддалены ад Снежкаў каля кіламетра. Калісь вёска называлася Калейчычамі, але ад прозвішча ўладальнікаў прыняла цяперашнюю назву. У Сасінах зараз царква; першая была там узведзена ўжо ў XVI стагоддзі. Мяркуецца, што пастаўлена яна была па той прычыне, што была там крынічка з гаючай вадою. Легенда падае, што некалі ў той крыніцы нейкая пані выкупала свайго сабаку і з таго часу вада ў крынічцы прапала. Легенду тую быў запісаў калісь Мікола Гайдук, а пасля, следам за ім, паўтаралі яе ўсе аўтары тэкстаў пра гісторыю Сасінскага прыхода; можна сказаць, што Гайдукова легенда атрымала кананічны статус. Ужо ў наш час у месцы, дзе магла быць тая крынічка, была выкапана студня, на прыцаркоўным пляцы. Дарэчы, у наш час, у 1947 годзе, старая царква згарэла; цяперашні храм быў пабудаваны некалькі гадоў пазней. З другога боку Сасін захаваліся яшчэ абрысы колішняга двара. А дворскае жыццё праходзіла па-рознаму; так бывала, што на Сасінаў нападалі Сапегі з недалёкага Дубна...

У Сасінах, прынамсі з галоўнай вуліцы, што вядзе ад царквы ў напрамку дворышча, не відаць азнак нейкага буйнага гаспадарання. Прымаючы гэта пад нie licząc trzody chlewnej i drobnego inwentarza. Obecnie posiadają tylko po jednym koniu i krowie. Uprawiają po kilka hektarów, a reszta leży odłogiem. Wykorzystując przy tym swoje kumoterskie stosunki uzyskali w Prezydium GRN zgodę na zrealizowanie obowiązkowych dostaw tylko z uprawianej ziemi. A na odłogach w ich gospodarstwach pasą się stada owiec, za które kułacy pobierają od właścicieli po pudzie żyta za sezon, co przynosi im poważne zyski. Np. [K1] przyjął w tym roku na pastwisko 150 owiec i otrzymał za to tyleż pudów żyta. Tymczasem aktyw gminny nie potrafił zmusić kułaków w oparciu o odpo-



Царква ў Сасінах



Царкоўка ў Сабятыне

увагу варта вярнуцца ў мінулае шасцідзесяцігадовай даўнасці. Тадышняя беластоцкая штодзёнка пісала: „Nasza walka z kułactwem o ograniczenie jego wpływów na wieś i wyparcie go nie była prowadzona z pełną ostrością. A kułacy w swej bezsilnej wściekłości chwytają się coraz to nowych metod, by szkodzić naszemu państwu ludowemu. Mówił o tym tow. [X] z Sasin w pow. bielskim. Tow. [X] podał przykład takiej wrogiej roboty ze swojej gromady. Są tam dwaj kułacy — [K1] posiadający 25 ha i [K2] — 26 ha. W latach 1948-49 posiadali oni po dwie pary koni, po 10 krów, wiednie zarządzenia władzy ludowej do pełnego zagospodarowania każdego skrawka ziemi i jednocześnie ograniczyć ich wyzysk". Хто ж мог прадбачыць, які футуролаг, што шэсцьдзесят гадоў пазней кулацтва спыніць сваё існаванне як грамадскі клас, шляхам амаль цалкам вольнага выбару, без „zarządzenia władzy ludowej". Цяпер жа ж ужо са свечкай трэба шукаць на вёсцы тых, што „posiadają tylko po jednym koniu i krowie". Амаль нiхто не трымае авечак. А колькі зямлі, што ляжала „odłogiem", цяпер займае лес...

За Сасінамі працякае невялічкая рачулка, якая, магчыма, ускосным чынам сілкавала вадой і апісаную Міколам Гайдуком крыніцу. А за рачулкай чарговая вёска — Сабятына. У паветцы аўтобуснага прыпынку, што перад вёскай, пачэплены драўляны праваслаўны крыжык — амаль так, як у нашым Сейме. Сама вёска Сабятына даволі вялікая, цягнецца яна за два кіламетры, але дзе-нідзе аж да самай вуліцы падыходзіць лясок.

У Сабятыне незвычайны помнік даўніны — могільнікавая царкоўка з 1672 года. Зараз яна ў завяршальнай стадыі рамонту. Дарэчы, рамонты праводзіліся і раней, але сёлетні хіба асаблівы — праводзіцца ён з прыцягненнем еўрасаюзных сродкаў. У пачатку 2011 года мілейчыцкія гмінныя радныя прынялі рашэнне падтрымаць рамонт гістарычнага храма; кошт рамонту — каля шасцісот тысяч злотаў з чвэрцю ўласнага ўзносу. Царкоўка атрымала новую шалёўку на месца яшчэ нядаўна моднага сайдынгу, які, аднак, не надта спрыяльны драўляным гістарычным помнікам. І новую акоўку — з меднай бляхі. І перакрыта яна, здаецца — бо з-пад снегу добра не відаць — гонтай. І дзве макаўкі атрымалі пазалоту. І выглядае цяпер тая царкоўка на фоне іншых вясковых збудаванняў, як нядзелька сярод будніх дзён, як той „дзень суботні" з чацвёртай запаведзі, які прысвячаецца Найвышэйшаму...

І пра Сабятына пісала беластоцкая штодзёнка: „Zetempowcy w Sobietynie, gm. Milejczyce, pow. Bielsk Podl. zorganizowali świetlicę, która była chlubą całej gromady. Lecz z chwilą zwolnienia się etatowego świetlicowego praca świetlicy zamarła. Lokal świetlicowy pozostawiono bez opieki, wskutek czego powybijano szyby w oknach i wyłamano drzwi. Świetlicą nie interesuje się sołtys i ZSCh, ani też podstawowa organizacja partyjna. Nie dba również o świetlicę Prezydium GRN, które odmówiło wydania zezwolenia na sprzedaż szkła dla świetlicy. W 1950 r. członkowie ZMP zebrali z występów i składek pieniądze na radio. Lecz radia nie kupiono, a pieniądze wydano na cele nie związane z pracą świetlicową". Ці ж не былі гэта прарочыя падзеі, якія прадвяшчалі лёс многіх вясковых грамадскіх аб'ектаў?..

Ва ўсіх названых раней вёсках захавалася традыцыйнае вясковае будаўніцтва — няма там высокіх мураванак, усюды г.зв. нізкая забудова. Цікавіла мяне, ці са зменай этнакультурнага абшару зменіцца і вясковы краявід. Падаўся я менавіта за раку Нурчык, у вёску Валкі. Невялікая гэта вёска, але нейкіх вялікіх адрозненняў ад ранейшых там няма. У гэтай невялікай вёсцы ёсць і невялічкі касцёл — гэта філіяльная капліца Асмольскай парафіі. Узведзена яна была ў 1985-88 гадах, а раней, пачынаючы з 1982 года, набажэнствы адпраўляліся ў прыватнай хаце.

Каля кіламетра за Валкамі — вёска Харашчэва. Пасярэдзіне вёскі будынак прыватнай крамы, але зараз ён пусты. Побач пункт прыёму малака з шыльдай гайнаўскай малачарні, але слядоў нейкага руху там не відаць.

Ад Кляшчэль аж да Харашчэва давялося мне ісці па снегавым насціле. А вось за Харашчэвам, у бок Гарнова, паказаўся чорны асфальт. Ступіў я на той асфальт і паходка стала цяжэйшай, чым па снезе. Сам не ведаю, чаму склалася такое адчуванне — магчыма, што хадзьба па снезе суправаджаецца таго снегу скрыпеннем пад ботамі, свайго роду мелодыяй ці нават гутаркай снегу з пешаходам, ад чаго і ідзецца лягчэй. Снег — дар прыроды, а асфальт, як бы мовіў адзін з маіх суседзяў — чартоўская выдумка...

Я мімаходам згадваў пра крамы. Ад станцыі ў Кляшчэлях аж да Харашчэва, а гэта адрэзак каля трыццаці кіламетраў, не было на маім шляху стацыянарных крамаў. Яны, так мне здаецца, як і тое легендарнае кулацтва, перабраліся следам за ім у гарады. Толькі ў Гарнове і ў Контах, што каля Дзядковіч, адносна вялікіх вёсках, яны яшчэ трымаюцца. А цяпер гандаль ідзе за пакупніком, а ён, той пакупнік, на вёсцы жыць не хоча.


ISSN 0546-1960